*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 40 (528) | 10 КАСТРЫЧНІКА 2001 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на чацвёрты квартал 2001 года. У гэтым квартале падпіска на нашу газету значна ўпала. Мы маем на сёння 2503 падпісчыкі. Падпіскай на газету "Наша слова" закрыты большасць раёнаў Беларусі. Падпісана каля 1100 вясковых бібліятэк. Падпісана вялікая колькасць менскіх бібліятэк. Падпісаны ўсе вышэйшыя і шэраг сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў краіны. Сакратарыят нагадвае, што ўсе, хто хоча атрымаць падпіску на свае бібліятэкі, школы, дзіцячыя садкі на першы квартал 2002 года, мусяць прысласць падпісныя карткі ў Менск на Румянцава, 13. Мы просім сяброў ТБМ звяртаць увагу на тэрміны падпіскі. Квіткі, якія спазняюцца, проста прападаюць.

| | Ліпень | | | Кастрычнік | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Інд. | Вед. | Разам. | Інд. | Вед. | Разам. |
| **Берасцейская вобласць:** | | | | | | |
| Баранавічы р.в | 16 | 14 | 30 | 20 | 1 | 21 |
| Бяроза р.в. | 2 | 28 | 30 | 2 | - | 2 |
| Белаазёрск р.в | 2 | - | 2 | 2 | - | 2 |
| Бярэсце гор. | 19 | 35 | 54 | 15 | 2 | 17 |
| Ганцавічы р.в. | 3 | 21 | 24 | 1 | - | 1 |
| Драгічын р.в. | 1 | 38 | 39 | 1 | - | 1 |
| Жабінка р.в. | - | 19 | 19 | - | - | - |
| Іванава р.в. | - | 35 | 35 | - | - | - |
| Івацэвічы р.в | 3 | 44 | 47 | 1 | - | 1 |
| Камянец р.в. | - | 49 | 49 | 22 | - | 22 |
| Кобрын гор. | 2 | 29 | 31 | 15 | - | 15 |
| Лунінец гор. | 2 | 35 | 37 | 4 | - | 4 |
| Ляхавічы р.в. | 2 | 26 | 28 | 2 | - | 2 |
| Маларыта р.в. | 1 | 5 | 6 | 1 | - | 1 |
| Пінск гор. | 25 | 49 | 74 | 23 | - | 23 |
| Пружаны р.в. | 5 | 43 | 48 | 8 | - | 8 |
| Столін р.в. | 2 | 51 | 53 | 2 | 1 | 3 |
| **Усяго:** | **86** | **520** | **606** | **119** | **4** | **123** |
| **Віцебская вобласць:** | | | | | | |
| Бешанковічы р.в. | 3 | 18 | 21 | 3 | - | 3 |
| Браслаў р.в. | 1 | 21 | 22 | 2 | - | 2 |
| Віцебск гор. | 24 | 23 | 47 | 23 | 24 | 47 |
| Віцебск РВПС | 3 | 7 | 10 | 1 | - | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | 3 | 1 | 4 | 4 | 30 | 3 4 |
| Глыбокае р.в. | 4 | 32 | 36 | 5 | - | 5 |
| Гарадок р.в. | 1 | 1 | 2 | 4 | 40 | 44 |
| Докшыцы р.в. | 1 | 1 | 2 | 3 | 31 | 34 |
| Дуброўня р.в. | 2 | 1 | 3 | 2 | 29 | 31 |
| Круляўшчызна | 3 | - | 3 | 3 | - | 3 |
| Ліёзна р.в. | 4 | - | 4 | 5 | 27 | 32 |
| Лепель р.в. | - | 1 | 1 | - | 32 | 32 |
| Міёры р.в. | 14 | - | 14 | 21 | 33 | 54 |
| Новаполацк гор. | 59 | 1 | 60 | 45 | 1 | 46 |
| Ворша гор. | 8 | 14 | 22 | 8 | - | 8 |
| Полацк гор. | 51 | 28 | 79 | 49 | 1 | 50 |
| Паставы р.в. | 4 | - | 4 | 7 | 41 | 48 |
| Расоны р.в. | - | - | - | - | 22 | 22 |
| Сянно р.в. | - | 1 | 1 | - | 35 | 35 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 | 2 | - | 33 | 33 |
| Ушачы р.в. | 1 | 23 | 24 | - | 1 | 1 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 | 2 | 2 | 1 | 3 |
| Шаркоўшчына р.в. | 9 | 2 | 11 | 11 | 2 | 13 |
| Шуміліна р.в. | 10 | 7 | 17 | 3 | 14 | 17 |
| **Усяго:** | **207** | **184** | **391** | **203** | **397** | **600** |
| **Менская вобласць:** | | | | | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 1 | 4 | 3 | 1 | 4 |
| Барысаў гор. | 6 | 41 | 47 | 10 | 2 | 12 |
| Вілейка гор. | 4 | - | 4 | 4 | 2 | 6 |
| Валожын гор. | 10 | 28 | 38 | 8 | 2 | 10 |
| Дзяржынск р.в. | - | - | - | 3 | 1 | 4 |
| Жодзіна гор. | 6 | 10 | 16 | 5 | 3 | 8 |
| Клецк р.в. | 2 | 42 | 44 | 2 | - | 2 |
| Крупкі р.в. | - | - | - | 2 | 1 | 3 |
| Капыль р.в. | 2 | 32 | 34 | 3 | 1 | 4 |
| Лагойск р.в. | 2 | 33 | 35 | 2 | 33 | 35 |
| Любань р.в. | 6 | 33 | 39 | 5 | 34 | 39 |
| Менск гор. | 359 | 72 | 431 | 411 | 73 | 484 |
| Менск РВПС | 3 | 73 | 76 | 12 | - | 12 |
| Маладэчна гор. | 19 | 41 | 60 | 20 | - | 20 |
| Мядзель р.в. | 12 | 2 | 14 | 9 | 2 | 11 |
| Пухавічы РВПС | 12 | - | 12 | 13 | - | 13 |
| Нясвіж р.в. | 3 | 16 | 19 | 4 | 17 | 21 |
| Смалявічы р.в. | - | - | - | 1 | 1 | 2 |
| Слуцк гор. | 9 | 38 | 47 | 10 | 38 | 48 |
| Салігорск гор. | 5 | 34 | 39 | 4 | 34 | 38 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | 20 | 20 | - | 19 | 19 |
| Стоўбцы р.в. | 5 | 47 | 52 | 7 | - | 7 |
| Узда р.в. | 1 | 20 | 21 | 2 | 20 | 22 |
| Чэрвень р.в. | 5 | 32 | 37 | 5 | 32 | 37 |
| Фаніпаль | 1 | - | 1 | - | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **485** | **605** | **1090** | **545** | **317** | **862** |
| **Гомельская вобласць:** | | | | | | |
| Буда-Кашалёва | 6 | 47 | 53 | 3 | - | 3 |
| Брагін р.в. | - | 4 | 4 | - | 36 | 36 |
| Ветка р.в. | 3 | 30 | 33 | 1 | - | 1 |
| Гомель гор. | 45 | 21 | 56 | 49 | 5 | 54 |
| Гомель РВПС | 1 | 36 | 37 | - | - | - |
| Добруш р.в. | 2 | 35 | 37 | 2 | - | 2 |
| Ельск р.в. | 4 | 3 | 7 | - | 19 | 19 |
| Жыткавічы р.в. | 11 | 59 | 70 | 30 | 2 | 32 |
| Жлобін гор. | 30 | 29 | 59 | 6 | - | 6 |
| Калінкавічы гор. | 2 | 9 | 11 | - | - | - |
| Карма р.в. | 3 | 19 | 22 | 1 | - | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 6 | 20 | 26 | 5 | - | 5 |
| Лоеў р.в. | - | 22 | 22 | - | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 11 | 24 | 35 | 29 | 3 | 32 |
| Акцябарскі р.в. | - | 20 | 20 | - | - | - |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 | 2 | - | 24 | 24 |
| Петрыкаў р.в. | 5 | 48 | 53 | 2 | 5 | 7 |
| Рэчыца гор. | 3 | 29 | 32 | 2 | 1 | 3 |
| Рагачоў гор. | 1 | 43 | 44 | 1 | 3 | 4 |
| Светлагорск гор. | 5 | 36 | 41 | 11 | 5 | 16 |
| Хойнікі р.в. | 4 | 4 | 8 | 3 | 34 | 37 |
| Чачэрск р.в. | 2 | 25 | 27 | 1 | - | 1 |
| **Усяго:** | **145** | **564** | **709** | **146** | **138** | **284** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | | | | | |
| Бераставіца | - | 22 | 22 | 3 | - | 3 |
| Ваўкавыск гор. | 11 | 30 | 41 | 9 | - | 9 |
| Воранава р.в. | 8 | 32 | 40 | 3 | - | 3 |
| Горадня гор. | 75 | 3 | 78 | 96 | 3 | 99 |
| Горадня РВПС | 31 | 60 | 91 | 37 | - | 37 |
| Дзятлава р.в. | 3 | 36 | 39 | 9 | - | 9 |
| Зэльва р.в. | 4 | 25 | 29 | 3 | - | 3 |
| Іўе р.в. | 3 | 32 | 35 | 1 | - | 1 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 27 | 31 | 4 | - | 4 |
| Масты р.в. | 9 | 27 | 36 | 8 | 28 | 36 |
| Наваградак гор. | 10 | 55 | 65 | 9 | - | 9 |
| Астравец р.в. | 3 | 27 | 30 | 6 | - | 6 |
| Ашмяны р.в. | 16 | 30 | 46 | 15 | - | 15 |
| Смаргонь гор. | 8 | 32 | 40 | 6 | - | 6 |
| Слонім гор. | 10 | 24 | 34 | 10 | - | 10 |
| Свіслач р.в. | 4 | 25 | 29 | 4 | - | 4 |
| Шчучын р.в.ю | 4 | 44 | 48 | 4 | - | 4 |
| Ліда | 25 | 59 | 84 | 12 | 120 | 132 |
| **Усяго:** | **228** | **590** | **818** | **239** | **151** | **390** |
| **Магілёўская вобласць:** | | | | | | |
| Бабруйск гор. | 19 | 1 | 20 | 16 | 1 | 17 |
| Бабруйск РВПС | - | 12 | 12 | - | - | - |
| Бялынічы р.в | 2 | 1 | 3 | 1 | 2 | 3 |
| Быхаў р.в. | 2 | 1 | 3 | 1 | 2 | 3 |
| Глуск р.в. | 2 | 1 | 3 | 2 | 2 | 4 |
| Горкі гор. | 21 | 31 | 52 | 21 | 1 | 22 |
| Дрыбін р.в | - | 1 | 1 | 1 | 2 | 3 |
| Кіраўск р.в. | - | 1 | 1 | - | 2 | 2 |
| Клічаў р.в. | - | 1 | 1 | - | 2 | 2 |
| Краскаполле р.в. | - | 1 | 1 | - | 2 | 2 |
| Крычаў р.в. | - | 1 | 1 | 1 | 2 | 3 |
| Клімавічы р.в. | 3 | - | 3 | 3 | 18 | 21 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 15 | 16 | - | - | - |
| Круглае р.в. | 4 | - | 4 | 2 | 2 | 4 |
| Мсціслаў р.в. | - | - | - | 1 | 25 | 26 |
| Магілёў гор. | 21 | 19 | 40 | 19 | 54 | 73 |
| Магілёў РВПС | 1 | - | 1 | 3 | 21 | 24 |
| Асіповічы гор. | 7 | 35 | 42 | 8 | - | 8 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | - | 1 | 1 | - | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - | - | - | 23 | 23 |
| Чэрыкаў р.в. | 13 | 7 | 20 | 2 | - | 2 |
| Чавусы р.в. | - | - | - | - | - | - |
| Шклоў р.в. | 3 | 15 | 18 | 3 | - | 3 |
| **Усяго:** | **100** | **143** | **243** | **83** | **161** | **244** |
| **Усяго па краіне:** | **1251** | **2604** | **3855** | **1335** | **1168** | **2503** |

# Народнае свята ў гонар 70-годдзя народнага паэта

***4 кастрычніка ў Чырвоным касцёле адбылася вечарына прысвечаная 70-ці годдзю народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.***

Пачалася вечарына ў малой тэатральнай зале Чырвонага касцёла. Людзі паціху прыходзілі і прыходзілі. Іх стала вельмі шмат, усе не памяшчаліся, але вечарына пачалася: выступіў хор "Голас душы" пад кіраўніцтвам Тацяны Гажэўскай . А народ ўсё прыбываў. Тады ксёндз У. Завальнюк згарнуў вячэрнюю імшу і прапанаваў усім перайсці ў вялікую залу касцёла. Сабралася каля дзвюх тысяч чалавек.

Адгучалі сурмы У. Пузыні і яго сына А. Пузыні. Пасля вядоўцы праграмы А. Трусаў і Л. Дзіцэвіч павіншавалі юбіляра ад усяго ТБМ. Яны адзначылі, што Ніл Сымонавіч восем гадоў свайго жыцця аддаў Таварыству, чым заслужыў глыбокую ўдзячнасць беларусаў цяперашніх і будучых пакаленняў. Яны падаравалі юбіляру высокамастацкі альбом, які зрабілі майстры Вячаслаў Дубінка і Уладзімір Крукоўскі.

Многія выступоўцы звярталі ўвагу на тое, што не планава, а збегам абставін свята само сабой перанеслася ў святыя сцены.

Да ўсіх віншаванняў далучыўся і ксёндз У. Завальнюк ад імя газеты "Голас душы". Маленькія дзеткі падаравалі вялікі торт і свае першыя вершы, у якім кожны радок пачынаецца з ініцыялаў Н. Г., а ксёндз Завальнюк перадаў "Новы запавет" У.Чарняўскага.

Потым пайшлі віншаванні ад усіх прысутных гасцей. Першым, хто выказаў віншаванні быў Радзім Гарэцкі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, які сказаў што ў Гілевіча гарманічныя спалучыліся ўсе якасці сапраўднага чалавека. Наступным выступоўцам быў намеснік кіраўніка місіі ЗША ў Беларусі Джон Кунштадтар. Ён віншаваў пісьменніка на добрай беларускай мове, якую вывучыў прыкладна за шэсць месяцаў у адрозненне ад беларускіх чыноўнікаў з вышэйшымі адукацыямі, якім, мабыць, і жыцця не хопіць. Дарэчы пра чыноўнікаў. Тое, што на вечарыне не было ні аднаго прадстаўніка ўлады, само па сабе кажа пра іх стаўлення да ўсяго беларускага ў цэлым і да выбітных асобаў Беларусі ў прыватнасці. А вось пра што кажа той факт, што на вечарыне не было ні аднаго кіраўніка ад абодвух франтоў, ад трох грамадаў, ад іншых як бы партый?

Выступілі з віншаваннямі В. Зуёнак, Навум Гільпяровіч, намеснік старшыні саюза беларускіх пісьменнікаў, Галіна Дзягілева, дырэктар тэатра "Зьніч", Людміла Майсеня, Людміла Карпенка, супрацоўнікі музея Я. Купалы...

Скульптар А. Шатэрнік падараваў скульптурную выяву Е. Полацкай,а фотакарэспандэнт Уладзімір Кармілкін – некалькі ўнікальных фатаздымкаў Ніла Гілевіча.

Шматлікія віншаванні перарываліся лерай А. Пузыні.

Потым пачалася творчая старонка, выступіў сам юбіляр. Ён падзякаваў усім сваім блізкім, сябрам, знаёмым і ўсім тым, хто сабраўся ў зале. Н. Гілевіч сказаў: **"Я рабіў тое, што хацеў рабіць для свайго народа"**. Ён прачытаў некалькі вершаў: "Сон у бясконіцу", "Усё гэта будзе...", "У нас у Беларусі...".

Скончылася гэтае сапраўды народнае свята выступленнем фальклёрнага гурта "Ліцьвіны".

*Ірына Секяржыцкая.*

## Зарэгістравана Савецкая раённая арганізацыі ГА ТБМ імя Францішка Скарыны

Адміністрацыя Савецкага раёна г. Менска выдала Пасведчанне № 236 аб рэгістрацыі Савецкай раённай арганізацыі ГА ТБМ імя Францішка Скарыны. Сакратарыят ГА ТБМ віншуе раду Савецкай раённай арганізацыі ГА ТБМ імя Францішка Скарыны з рэгістрацыяй і спадзяецца на актывізацыю дзейнасці арганізацыі па абароне і ўмацаванні пазіцый беларускай мовы ў беларускім грамадстве.



№ 40 (528) 10 КАСТРЫЧНІКА 2001 г. наша СЛОВА

# Толькі самі беларусы могуць захаваць сваю мову!

Вельмі добра, што "Звязда" надрукавала матэрыял сп. У. Траццякова, прысвечаны білінгвізму, бо так, як ён, разважаюць шмат якія рускамоўныя інтэлігенты, якія стала жывуць на Беларусі (прычым значная частка з іх не рускія паходжаннем, і сярод іх немалая колькасць "пашпартных" беларусаў).

Іх разважанні будуюцца на аснове міфаў, якія спачатку былі створаны ідэолагамі Расійскай імперыі, а потым творча перапрацаваны бальшавікамі. Зыходзячы з гэтых міфаў, робіць шмат якія высновы і сп. Траццякоў.

Міф першы і самы галоўны – "аб выключнасці і ўнікальнасці рускай мовы і яе шырокім распаўсюджванні ў Еўропе і Свеце".

Вытокі гэтага міфа сягаюць у XIX ст., калі царская ідэолагі гвалтоўна навязвалі рускую мову ўсім заваяваным і нават дабраахвотна далучаным да Расіі народам. Яны нават адмаўлялі ў праве на існаванне беларускай і ўкраінскай мовам, і адукацыя, а таксама кнігадрукаванне на гэтых мовах да 1905 года былі забаронены. Сам жа царскі двор, які, пачынаючы з Кацярыны II, меў трывалыя нямецкія карані, у побыце не вельмі карыстаўся рускай мовай, лічыў яе непрыгожай, мужыцкай і аддаваў перавагу спачатку французскай (успомнім, што свае першыя вершы Пушкін спрабаваў пісаць на мове Вальтэра), а потым нямецкай.

Нямецкую мову і асабліва нямецкія грошы ў часы першай сусветнай вайны вельмі любілі і бальшавікі, якія шмат гадоў пражылі ў нямецкамоўных краінах у якасці эмігрантаў і за нямецкія грошы здзейснілі кастрычніцкі пераварот. Аднак, каб перамагчы белагвардзейскі супраціў, які грунтаваўся на ідэалогіі "адзінай і недзялімай Расіі", дзе інародзец павінен мець сваё канкрэтнае месца", бальшавікі ўдала скарысталі нацыянальную ідэю кожнага прыгнечанага народа і раскрылі ганебную сутнасць рускага шавінізму як сацыяльнай з'явы XIX – папчатку XX стст. Яны абяцалі прыгнечаным народам не толькі культурнамоўную аўтаномію, але нават незалежнасць, як, напрыклад, Польшчы, Фінляндыі, Украіне, Грузіі, Арменіі і Азербайджану. Іх абяцанням паверылі шырокія народныя масы, частка вясковай і гарадской інтэлігенцыі. У СССР у 20-я гады сапраўды назіраўся пад'ём у галіне развіцця розных моў і культур. У БССР паводле Канстытуцыі 1927 года былі 4 дзяржаўныя мовы, але беларуская мова шанавалася і распаўсюджвалася як мова тытульнай нацыі без усялякіх рэферэндумаў.

Але Сталін, фізічна і маральна знішчыў ў 30-я гады амаль усіх дасведчаных бальшавікоў, адрадзіў шмат якія міфы Расійскай імперыі, у тым ліку і міф аб выключнасці рускай мовы, але размаўляць на ёй без грузінскага акцэнту ён так і не навучыўся.

Апошняй з ім па моўным пытанні спрабавала спрачацца Надзея Крупская пасля таго, як у школы з нацыянальнай мовай навучання ўвялі рускую мову як прадмет з першага класа, што вельмі шкодзіла дзецям добра засвоіць сваю родную мову.

После пераможнай вайны сталінізм пашырыў свой уплыў на вялікіх абшарах Еўропы і Азіі і разам з экспартам рэвалюцыі і ідэй камунізму гвалтоўна насаджаў і рускую мову. Яе абавязкова вывучалі ў школах усіх краінаў сацыялістычнага лагера, каб разумець працы Леніна і Сталіна.

Аднак за межамі сацлагера ў 50-80-х гадах XX ст. запанавала англійская мова, у першую чаргу як мова навукі і бізнесу.

Адукацыйная ж сістэма ў СССР была пабудавана так, што ў звычайнай школе, большасці тэхнікумаў і нават інстытутаў іншыя мовы, акрамя роднай, вывучаліся на такім нізкім узроўні, што просты савецкі чалавек не ведаў замежных моў. Ва універсітэтах і Заходняй Еўропы і ЗША рускую мову амаль не вывучалі, за выключэннем філолагаў-славістаў, дыпламатаў і разведчыкаў.

Аднак рухнула неспадзявана "імперыя зла", і роля рускай мовы адразу стала ў свеце яшчэ больш непрывабнай і нязначнай. Зараз гэтая мова толькі адной вялікай краіны – Расіі – знаходзіцца ў крызісным стане, вельмі хутка засмечваецца англамоўнымі тэрмінамі і жаргоннай, амаль крымінальнай лексікай. Таму відаць невыпадкова зараз Дзяржаўная Дума Расіі рыхтуе закон "Аб абароне рускай мовы", а ў далёкай Сібіры рэспубліка Якуцыя-Саха увяла другую дзяржаўную мову англійскую.

Калі б гэта таксама зрабілі беларусы, то такі білінгвізм даў бы значна больш эканамічнай выгады, чым той, да якога нас заклікае сп. Траццякоў.

Ніводзін беларус, які адрокся ад роднай мовы і перайшоў на рускую мову, а дакладней на "трасянку", жыць ад гэтага лепш не стаў, бо ў заможных краінах, дзе можна крыху зарабіць, зараз руская мова не патрэбная.

Міф другі. "У свеце шмат двухмоўных краін, і таму білінгвізм толькі карысная з'ява".

Па-першае, ніякага білінгвізму ў прыродзе няма, а ёсць паступовае выцясненне адной мовы іншай, бо чалавек не ў стане адначасова думаць, размаўляць і пісаць на некалькіх мовах.

Краіна, дзе існуе некалькі дзяржаўных моў, або складаецца з некалькіх розных народаў, або мае адну з моў у якасці каланіяльнай спадчыны, і гэта вядзе да канфліктаў. Дастаткова толькі згадаць неаднаразовыя спробы франкамоўнай канадскай правінцыі Квебек выйсці са складу англамоўнай краіны. У іншых краінах да другой нацыянальнай мовы ставяцца фармальна, як, напрыклад, у Фінляндыі, дзе існуе толькі адзін шведскамоўны універсітэт у г. Або і на дзвюх мовах напісаныя назвы вуліц. Яшчэ лепшая сітуацыя ў Швейцарскай канфедэрацыі, дзе кожны кантон мае адну родную мову, а іншыя дзяржаўныя мовы абавязаны ведаць толькі дзяржаўныя чыноўнікі розных рангаў. Таму і адсутнічаюць тут шведскамоўныя універсітэты, сп. Траццякоў, бо ва універсітэтах Цюрыха і Берна навучаюцца па-нямецку, а Лазаны і Жэневы – па-французску. У нас жа, у краіне, дзе працэнт этнічных беларусаў большы, чым працэнт этнічных рускіх у Расіі, адсутнічаюць вышэйшыя навучальныя ўстановы з беларускамоўным рэжымам навучання. Таму параўноўваць нас можна не з Аўстрыяй ці Швейцарыяй, а з бананавымі рэспублікамі Лацінскай Амерыкі ці з былымі франкамоўнымі калоніямі Афрыкі. Дарэчы пра гэтае яскрава сведчыць і наш жыццёвы ўзровень. Прагаласаваўшы на рэферэндуме 1995 года за дзвюхмоўе, грамадзяне Беларусі не сталі жыць лепей. Наадварот, калі раней сярэдні заробак дасягаў 100$, то зараз нам яго абяцалі толькі пасля прэзідэнцкіх выбараў. Выбары прайшлі...

Дарэчы, закон "Аб мовах у БССР" 1990 года прымаўся ў часы СССР, калі афіцыйнай мовай у краіне была руская, а беларускую мову Машэраў, Слюнькоў і Сякалоў давялі да стану клінічнай смерці. Напрыклад, шмат у якіх школах Менска беларускую літаратуру выкладалі па-руску, а ад вывучэння беларускай мовы мог вызваліцца кожны вучань.

Памылкай жа ў Законе быў доўгі і марудны працэс адраджэння беларускай мовы ад дзіцячых садкоў да школ і ВНУ. Трэба было б адразу, на працягу 5 гадоў зрабіць беларускамоўнай вышэйшую школу (па прыкладзе 20-х гадоў). Тады б усе бацькі панеслі свае заявы ў беларускамоўныя школы. Дарэчы так зараз зрабіла Украіна. Па-украінску цяпер гаворыць прэзідэнт, урад, войска, міліцыя і суды.

Таму, сп. Траццякоў, трэба пазбаўляцца ад старых імперскіх міфаў і зрабіць у Беларусі так, як ва ўсім цывілізаваным свеце, дзе мова навучання адпаведная колькасці тых народаў, якія стала жывуць у краіне.

І я думаю, што праз пэўны час так яно і будзе. І гэта можам зрабіць толькі мы, жыхары Беларусі.

*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"*
***Алег Трусаў.***

# З жывой народнай крыніцы

## НАЗВЫ ТОЎСТЫХ, ТРЫБУХАТЫХ ЛЮДЗЕЙ У ГАВОРКАХ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ

Вельмі разнастайны і багаты ў гарадзенскіх гаворках абсяг лексікі, якая характарызуе чалавека паводле адметнасцяў канстытуцыі цела. Адна з прычынаў такой разнастайнасці – устойлівыя каштоўнасці і традыцыйныя ўяўленні людзей: беларусы заўсёды недалюблівалі занадта тоўстых, трыбухатых людзей, як, дарэчы, і вельмі худых (сухіх). Гэта тлумачыцца проста: з вельмі тоўстага ці вельмі худога чалавека звычай бывае дрэнны працаўнік, а беларусы – народ працавіты.

Бадай, самым багатым тут з'яўляецца сінанімічны шэраг з агульным значэннем ***'тоўсты чалавек'***. Большыня назваў у слоўніках падаецца з негатыўнай эмацыйна-экспрэсійнай адзнакаю, а, па-сутнасці, такое адценне ўласцівае кожнай лексеме з згаданай семантыкай, бо ўяўленне пра тоўстага чалавека часцей за ўсё асацыявалася з гультайствам, лянотай.

У групе словаў, што называюць тоўстага чалавека, назіраецца пэўная семантычная дыферэнцыя. Найбольш агульнае значэнне ўласцівае наступным лексемам: ***таўсця'к, сычыня', ру'хталь*** (грубае), ***ляпя'к, лямпе'х, бабі'ла, барэ'лко*** (пагардлівае), ***лата'к***.

Назва ***таўсця'к*** у гаворках сустракаецца рэдка. Фактычна яна зафіксаваная толькі аднойчы, хаця і ўтвораная паводле прадукцыйнага для народнай мовы тыпу ад прыметніка ***тоўсты*** з дапамогаю суфікса – ***як***, як і ***здаравя'к, слаба'к*** і інш. Аднак больш натуральным для беларускай мовы і найбольш распаўсюджаным у гаворках Беларусі з'яўляецца назоўнік ***таўсту'н***. Яго з паметай *"размоўнае"* падаюць і нарматыўныя крыніцы, фемінатыў да яго – ***таўсту'ха***. На нашу думку, існаванне лексемы ***таўсця'к*** у беларускі гаворках можна патлумачыць уплывам рускай мовы, для якой слова ***толстяк*** – найбольш характэрная і шырока ўжывальная адзінка для выражэння паняцця *'тоўсты чалавек'*. Да таго ж у рускай мове ёсць і адпаведны, вытворны ад маскулінатыва, назоўнік жаночага роду – ***толстя'чка***, які адсутнічае ў беларускай мове.

Лексема ***ляпя'к***, відавочна, метафара – пераасэнсаванне нейкага ***ляпя'к*** *'няўдалае печыва'* (ад ***ляпіць***). У гарадзенскіх гаворках з значэннем *'няўдалае печыва'* выкарыстоўваюцца таксама і назоўнікі ***ляпня'к*** (ужываецца і як абразлівая назва няўдалага чалавека) і ***ляпёнда*** *(іранічнае)*.

Нягледзячы на падобны гукавы склад слова ***лямпе'х*** з згаданымі вышэй адзінкамі, этымолагі схільныя вызначаць іншае яго паходжанне і трактаваць як балтызм ("Этымалагічны слоўнік беларускай мовы", т.6,с.125). На Гарадзеншчыне (у Ашмянскім раёне) зафіксавана таксама назва ***лямпу'ха*** *(экспрэсійнае) 'вялікі, дзябёлы* (пра чалавека і жывёлу)'. А вось у памежным Смаргонскім раёне сустракаем ***лямпя'к*** *'хлеб, які не ўдаўся'*. Такім чынам, паўстае пытанне: ці звязаныя паміж сабою гэтыя адзінкі і, калі так, то якая з іх з'яўляецца першаснай, вызначальнай? Думаецца, ва ўяўленні сённяшніх носьбітаў гаворак сувязь лексемаў мажлівая. У такім выпадку слова ***лямпя'к*** трэба тлумачыць як кантамінацыю ***ляпя'к (ляпня'к)*** і ***лямпе'х***. Аднак не выключаны і іншы (незалежны ад назваў асобы ***лямпе'х*** і ***лямпу'ха***) шлях узнікнення назвы ***лямпя'к 'хлеб, які не ўдаўся – з ляпня'к***, дзе пасьлядоўна адбыліся працэсы метатэзы ***(пн > нп)*** і рэгрэсіўнай асіміляцыі ***(нп > мп)***.

Шляхам метафарычнага пераасэнсавання ўзніклі назвы ***лата'к*** – з ***лата'к*** *'жолаб для сцёку вады, соку'* або з ***лата'к*** *'карыта з невялікім жолабам у млыне для ссыпання збожжа'* (з такім значэннямі слова вядомае не толькі дыялектнай, але і літаратурнай мове) і ***барэ'лко*** – з ***барэ'лко*** *'бочачка'*.

Назва ***сычыня'*** – метанімічнае ўтварэнне атрыбутыўнага характару, якое адлюстроўвае асацыяцыйныя сувязі паміж якасцю *'таўшчыня, сытнасць'* і суб'ектам, якому ўласцівая такая якасць.

Найбольш структурна і этымалагічна непразрыстымі з згаданага сінанімічнага шэрагу ўяўляюцца лексемы ***бабі'ла*** і ***ру'хталь***. Адзінкавая фіксацыя і адсутнасць роднасных словаў з іншых гаворак не дазваляюць выказваць якіх-небудзь больш-менш пэўных меркаванняў.

Асобна падамо назвы, значэнне якіх утрымлівае характарыстыку асобы паводле канкрэтнай часткі цела. Гэтыя словы выяўляюць паняцце *'чалавек з вялікім жыватом'*, большыня іх і матывуецца разнастайнымі назвамі жывата. Гэта назоўнікі: ***трыбуха'ч*** *(абразлівае)*, ***трыбухле'й, трыбухле'іна*** *(узмацняльнае)*, ***тэ'льбух, бэ'бах, батле'й*** *(непахвальнае)*, ***ланту'х, начва'ч***.

Адпрыметнікавы дэрыват ***трыбуха'ч***, а таксама ўтваральныя ***трыбуха'ты*** і ***трыбу'х*** падаюцца як прыналежнасць размоўнага стылю і нарматыўнымі слоўнікамі беларускай літаратурнай мовы.

Непасрэдна ад назоўніка ***трыбу'х*** *'жывот'* з дапамогаю фарманта – ***ей*** утворная назва ***трыбухле'й***, ад якой, у сваю чаргу, утварылася ўзмацняльная форма ***трыбухле'іна***. У гэтых словах назіраем нарашчэнне асновы за кошт зычнага *л'*, яно ўзнікла па прычыне неўласцівага мове спалучэння ***хе***, якое раздзяліў гук *л'*. У гарадзенскіх гаворках сустракаецца назва трыбухатай жанчыны ***трыбушыя'*** *абразл.* – таксама дэрыват ад ***трыбу'х***. Апошні назоўнік і дыялектныя, і літаратурныя крыніцы падаюць як полісемант з значэннямі: *'страўнік', 'жывот', мн. 'вантробы'*. У пухавіцкіх гаворках ён ужываецца ў якасці асабовага наймення ***трыбу'х*** *'тоўсты чалавек'*, што ўзнікла ў выніку сінекдахічнага пераносу.

На ўзор ***трыбуха'ч*** і да т.п. утварыўся назоўнік ***начва'ч*** ад ***но'чвы*** *'карыта для мыцця бялізны і іншых патрэб'*. Можна, аднак, меркаваць і пра ўтварэнне ад метафары ***но'чвы*** *'вялікі жывот'*. Хоць такая назва і не зафіксаваная крыніцамі, але асацыяцыйныя сувязі ***но'чвы*** *'карыта'* – ***но'чвы*** *'жывот'* цалкам мажлівыя (параўнайце з чэрвенскім ***начва'н*** *'вялікае пуза'*> ***начва'н*** *'хлопчык ці дзяўчынка з вялікім пузам'*).

Астатнія з згаданага шэрагу назвы ўзніклі ў выніку сінекдахічных пераасэнсаванняў. ***Бэ'бах*** *'тоўсты, пузаты чалавек'* – ад ***бэ'бах*** *'жывот'*, якое паводле паходжання гукапераймальнае ўтварэнне, як і ўкр. ***бебехи***, польск. ***bebechy*** *'вантробы'*.

Магчыма, такую ж анаматапеічную прыроду мае і назоўнік ***тэ'льбух*** *'мужчына з вялікім жыватом'* < ***тэ'льбу***х *'жывот'*.

Назоўнік ***ланту'х*** шырока распаўсюджаны ў многіх гаворках Беларусі. Гэтаму германізму, пазычанаму ў XVI ст. з ням. ***Leintuch 'коўдра, посцілка'***, уласцівая высокая ступень адаптацыі ў беларускай народнай мове. Пра гэта сведчыць наяўнасць разнастайных фанетычных і акцэнталагічных варыянтаў, існаванне ў гаворках новых формаў і словаў, утваральнай базай для якіх ёсць аснова ***лантух-***. Найважнейшы паказальнік адаптацыі згаданага слова ў мове-пазычальніцы – значнае павелічэнне абсягу семантыкі, развіццё якой можна паказаць наступнай схемай: ***'коўдра, посцілка', 'мех' ('мех для сена', 'мех для торфу') 'жывот, трыбух; страўнік, вантробы', 'трыбухаты, тоўсты, непаваротлівы чалавек; абжора' 'гультай'***.

Як бачым, на працягу свайго семантычнага развіцця слова ***лантух*** зведала метафарычны і сінекдахічны пераносы, дзякуючы чаму трывала прыжылося як у гарадзенскіх, так і ў іншых беларускіх гаворках.

Найбольш непразрыстай з згаданага шэрагу ***'трыбухаты чалавек'*** нам уяўляецца назва ***батле'й***. Можна выказаць меркаванне пра пэўныя сувязі з ***бале'я*** *'пасудзіна для мыцця бялізны'*, якое з прычыны сваёй іншамоўнай прыроды і складанага шляху ў беларускую мову (праз польск. ***balja, balija, baleja*** 'тс' < ням. дыял. ***Balje*** (ням. літар. ***Balge***) < гал. < франц. ***baille*** *'бак, чан'*) магло змяніць катэгорыю роду і пад уздзеяннем экспрэсійнага фактару набыць эпентычны *м*. Магчыма, тут таксама трэба бачыць вынік метафарычнага ці сінекдахічнага пераўтварэння.

***Аксана Кавальчук,***
*супрацоўнік навукова-даследчай лабараторыі "Вывучэнне народнай мовы Гарадзеншчыны" ГрДзУ імя Я. Купалы.*





# ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА НАЗІРАННЯ

## Шайбу можна закінуць і рукой. Але ці сапраўднай будзе перамога?

Уся ўлада засталася ў руках таго, хто яе і не збіраўся аддаваць. Выбары дэмакратычная апазіцыя натуральна прайграла. Цяпер будзе падлік памылак і пошук крайніх. Я ж прапаную палічыць раны на целе супраціўніка.

Першае. Улады прывучаны да думкі, што запужаць усіх немагчыма. Справа не ў тым, што былі і дабрасумленныя выбарчыя камісіі. Адносна дабрасумленныя. Галоўнае – быў народны кантроль. Тысячы незалежных назіральнікаў.

Мільёны грамадзян, прыйшоўшы на выбарчыя ўчасткі, бачылі, што акрамя афіцыйных, падкантрольных уладам камісій, прысутнічаюць людзі, якія не маюць да ўлады ніякіх адносінаў. І яны кантралююць (!) камісіі, г.зн. саму ўладу. Адна толькі прысутнасць незалежных назіральнікаў мела каласальны выхаваўчы эфект.

Гэта другая перамога дэмакратыі.

Трэцяе. Назіральнікі не толькі пасіўна прысутнічалі. З выбарчым кодэксам у руках яны настаўлялі на шлях праўдзівы членаў камісій у дні датэрміновага галасавання, калі ўплыў вышкаленых уладай старшыняў камісій быў нязначны. Хоць мінімальнае ўкараненне ў свядомасць многіх людзей неабходнасці хоць неяк выконваць закон, у прыватнасці Выбарчы кодэкс, – вялікае дасягненне для краіны, у якой "закон – тайга" і "закон, што дышла – куды павярнуў, туды і выйшла".

Назіральнікі складалі і падавалі пісьмовыя заявы пра канкрэтныя парушэнні Выбарчага кодэксу. З гэтымі заявамі давялося разбірацца старшыням участковых і раённых выбарчых камісій, ЦВК і нават пракурорам. Пры ўладзе знайходзяцца жывыя людзі. Адна справа кіраваць бязмоўным статкам, а другая – адчуць хоць нейкую адказнасць за свае дзеянні. Надзея на абуджэнне, калі не сумлення, то страху ва ўладатрымцаў сэрэдняга ўзроўню – таксама перамога дэмакратыі. Адна справа – абманваць тых, каму ўсё да ліхтара, а іншае – тых, хто гэтага не хоча, хто кантралюе працэс абману.

Цяпер паглядзім на ўсё гэта вачыма пераможца.

Ён ведае, што ўсе, каго гэта цікавіць, ведаюць, што ён абраны. Усе ведаюць толькі адно – ён не перамог. Ведаюць назіральнікі, якіх практычна паўсюдна не дапусцілі назіраць падлік галасоў. Ведаюць грамадскія арганізацыі і партыі. Ведаюць журналісты. Ведае інтэлігенцыя. Ведаюць саўдзельнікі: старшыні камісій, сябры камісій, дзяжурныя міліцыянеры. Ведаюць іх знаёмыя. Ведаюць, у рэшце рэшт, АБСЕ, Захад.

Можна, канешне, пераматчы ў хакей, закідваючы шайбы рукой, дастаючы іх усякі раз украдкай з патаемнай кішэні. Можна, калі пра гэта ніхто не ведае. Можна падкупіць ці прымусіць суддзю, каб ён гэтага "не бачыў". Але што рабіць з гледачамі? З камандай супраціўніка? А з сваёю камандай што рабіць? Яны ж ведаюць. Віншаваць з перамогай будуць, а вось паважаць не будуць, бацечка! Паважаць не будуць... Гэта вельмі важная перамога чэсных паводзінаў дэмакратыі на выбарах – пераможца не будуць паважаць свае ж.

Дарэчы, а чаму была заказана такая сакрушальная перамога – зусім непраўдападобная 75%? А гэта, каб уцерці нос суседняму "папе Карлу". Наіўны, павагі захацелася. Тубыльскай павагі ўжо мала. Незразумела толькі, навошта для гэтага патрэбны былі выбары? Усе і так ведаюць, хто ў нас самы-самы-самы. Усе яго і так вельмі любяць і вельмі паважаюць. Хоць і трымаюць фігу ў кішэні, а не паказваюць!..

Перамога мае і выхаваўчы эфект для пераможца. Памяркуйце самі, супраць яго была аб'ядная апазіцыя, адзіны кандыдат, быў магутны кампрамат, былі назіральнікі, "зубры" і інш., і інш., і інш.. Ну і што страшна? Не, не страшна. І з гэтым аказваецца можна жыць. Дастаткова "правільна", элегантна падлічыць галасы. Ці "не пускаць" на тэлебачанне. Ці "пушчаць" толькі на Бангалор. Ды ці мала метадаў трымаць апазіцыю на кароткім цугундэры.

Высноўа для пераможца: і з дэмакратыяй можна жыць. Яна не страшная. Яна не кусаецца. З кішэняк шайбы не дастае. Бяскрыўдная, а, значыць, мае права на далейшае жыццё. Значыць канкрэтны пройгрыш дэмакратыі на выбарах абернецца яе перамогай, перамогай яе духу. Канешне, не на спадачку з блакітным пасачкам.

Падсумаваўшы, можна сказаць так: брудная перамога ўлады – гэта чыстая перамога дэмакратыі.

*Барыс Левін,*
***назіральнік ад ГА ТБМ імя Ф. Скарыны***

**Пракурору Першамайскага раёна г. Мінска ад Кручкова Сяргея Мікалаевіча, які пражывае па вул. Сядых, д.50, кв. 9, 220040, г. Мінск**

**ЗАЯВА**

9 верасня 2001 г. я, Кручкоў С.М., назіральнік ад Таварыства беларускай мовы на выбарчым участку № 48 Першамайскага раёна г. Мінска, разам з іншымі назіральнікамі з адлегласці 1,5 метра зафіксаваў наступнае: падчас падліку галасоў на выбарах прэзідэнта РБ пасля ускрыцця скрыняў для галасавання на стале былі раскладзены па стосах бюлетэні. Падлік галасоў ажыццяўляўся з 20.20 да 20.50 членамі ўчастковай камісіі. Пасля падліку стосы з бюлетэнямі былі раскладзены на стале. Вышыня стосу бюлетэняў за Ганчарыка У. І. была роўная са стосам бюлетэняў за Лукашэнку А. Р. Найменшы стос – за Гайдукевіча. Члены камісіі ў голас не гаварылі колькасць галасоў за таго ці іншага кандыдата, а запісвалі лічбы на паперцы і перадавалі старшыні камісіі. На працягу 30 хвілін усе бюлетэні знаходзіліся на відавоку ў назіральнікаў. У гэты час старшыня камісіі Карповіч Васіль Васільевіч, член камісіі (прозвішча яго мне невядома) і сакратар пачалі складаць пратакол. З 20.50 да 21.40 гэтымі трыма асобамі складаўся пратакол, старшыня камісіі званіў некуды па тэлефоне. У 21.40 Карповіч Васіль Васільевіч абвясціў наступныя вынікі галасавання: За Лукашэнку – 1092, за Ганчарыка – 507, за Гайдукевіча – 52. Невыкарыстаныя бюлетэні перад тым, як адчыніць скрыні галасавання, участковая камісія не лічыла, не пагашала, не складвала ў мяхі і не апячатвала. Усе выкарыстаныя бюлетэні былі складзены ў адзін пачак. Выніковы пратакол не быў вывешаны для ўсеагульнага азнаямлення.

Прашу ўзбудзіць крымінальную справу па прыкметах арт. 192 Крымінальнага кодэксу. (Падлог дакументаў па выбарах, рэферэндуме ці адкліканні дэпутата, парушэнне таямніцы галасавання, свядома няправільны падлік галасоў ці іншае скажэнне вынікаў галасавання, якое ўчыніў член камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь) супраць старшыні ўчастковай выбарчай камісіі № 48 Першамайскага раёна г. Мінска Карповіча В.В. і ўсіх членаў камісіі (прозвішчаў не ведаю). Прашу прыняць меры для аховы выбарчых бюлетэняў і іншых выбарчых дакументаў (пратаколаў і г.д.).

Прашу разгледзець маю заяву і накіраваць адказ на мой адрас.

**Дата 10 верасня 2001 г.**
**Подпіс**

**Пракурору Савецкага раёна г. Мінска ад Дзям'яненкі Аляксандра Мікалаевіча, які пражывае па вул. Усходняй, д.38, кв. 91, 220040, г. Мінск**

**ЗАЯВА**

9 верасня 2001 г. я, Дзем'яненка А.М., назіральнік ад Таварыства беларускай мовы на выбарчым участку № 61 Савецкага раёна г. Мінска, разам з назіральнікам Дзям'яненка Ю.Я. і міжнароднымі назіральнікамі (прозвішчаў не ведаю) з адлегласці 1,5 метра зафіксаваў наступнае: падчас падліку галасоў на выбарах прэзідэнта РБ пасля ускрыцця скрыняў для галасавання на стале былі



**Назіральнікі ад "Вясны" пазбаўленыя акрэдытацыі, дапамагаюць Алегу Трусаву ў дзень выбараў**

раскладзеныя па стосах бюлетэні. Вышыня стосу бюлетэняў за Ганчарыка У. І. была значна вышэйшая за стос бюлетэняў за Лукашэнку А.Р. Найменшы стос – за Гайдукевіча. Пасля членамі камісіі бюлетэні былі занесены на стол да старшыні камісіі Радыны А.Л. Старшыня камісіі разам з сакратаром камісіі сартавалі бюлетэні. У час сартавання і падліку галасоў адзін з членаў камісіі неаднаразова выходзіў і заходзіў у памяшканне, дзе падлічваліся галасы. Пасля гэтага старшыня камісіі вусна абвясціў вынікі галасавання: за Лукашэнку – 1635, за Ганчарыка – 400, за Гайдукевіча – 46, усяго прагаласавала 2081, колькасць бюлетэняў – 2336. Рабочы і выніковы пратаколы вынікаў галасавання не складаліся. Выніковы пратакол не быў вывешаны для ўсеагульнага азнаямлення. Пасля гэтага старшыня камісіі, забраўшы бюлетэні, пакінуў памяшканне.

Прашу ўзбудзіць крымінальную справу па прыкметах арт. 192 К. К. ("Падлог выбарчых дакументаў") супраць старшыні ўчастковай выбарчай камісіі № 61 Савецкага раёна г. Мінска Радыны А.Л. і ўсіх членаў камісіі (прозвішчаў не ведаю). Прашу прыняць меры да аховы выбарчых бюлетэняў і іншых выбарчых дакументаў (пратаколаў і г.д.).

**Дата 10 верасня 2001 г.**
**Подпіс**

**АКТ**

аб парушэнні выбарчага заканадаўства
г. Мінск, уч. № 72, Першамайскі раён

Я, назіральнік ад ТБМ на выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Палсцюк Валеры склаў акт аб парушэнні 8 верасня 2001 г.

**Апісанне парушэння**

8 верасня ў 10.15 калона з больш чым 20 салдат 1-га батальёна в/ч 04104 пад кіраўніцтвам камандзіра 1-й роты ст. лейтэнанта Лаўрова арганізавана прыбыла на галасаванне. Ст. лейтэнант Лаўроў у гутарцы з назіральнікам сказаў, што салдаты галасуюць датэрмінова, каб "...не создавать толпы..." 9-га верасня, салдаты ж сказалі, што 9-га верасня будуць адпачываць, бо напярэдадні 7-га верасня прыехалі з вучэнняў на палігоне "Белая лужа".

У 10.45 другая група салдат ў колькасці 40...50 чалавек пад кіраўніцтвам камандзіра трэцяй роты 1-га батальёна таксама прыбыла на галасаванне. Падчас гутаркі з салдатамі назіральнік выявіў, што салдаты таксама прыбылі з вучэнняў і датэрмінова галасуюць, таму, што так вырашыла іх начальства. У гэты ж час на выбарчым участку з'явіўся старшыня ўчастковай камісіі № 72, нам. камандзіра в/ч 04104 па выхаваўчай працы падпалкоўнік Хаванскі В.М., які абвясціў, што ў дзень галасавання 1-ы батальён выязджае на чарговыя вучэнні.

Пры галасаванні выявілася, хто з салдат яшчэ не прагаласаваў.

Лічу, што пры гэтым былі парушаныя наступныя артыкулы Выбарчага кодэксу: частка 1 арт. 2, частка 1 арт. 3, дзе гаворыцца, што "выбары з'яўляюцца свабоднымі", арт. 5, дзе гаворыцца, што "выбаршчык асабіста вырашае, ці ўдзельнічаць яму ў выбарах".

Акрмя таго падчас галасавання членамі камісіі не высвятлялася ці сапраўды выбаршчык мае права датэрміновага галасавання (не мае магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца на месцы свайго жыхарства). Гэта парушэнне часткі 1 арт. 53.

**8 верасня 2001 г.**
**Палсцюк В.В.**





# БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭКА І МУЗЕЙ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ Ў ЛОНДАНЕ

***Сёлета прыпадаюць 30-я ўгодкі, заснаванае 15 траўня, 1971 года Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане, Англіі. А 4-га кастрычніка – 20-я ўгодкі смерці заснавальніка Беларускай бібліятэкі Францішка Скарыны светлай памяці біскупа Часлава Сіповіча.***

***У гонар гэтых двох важных угодкаў 29-30 верасня 2001, у Лондане, была сплянаваная канфэрэнцыя на тэму "Роля беларускай дыяспары ў захаванні беларускай культуры".***

***Канфэрэнцыю ладзілі: Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі, Ангельска-беларускае таварыства і Бібліятэка імя Франціўшка Скарыны пры падтрымцы Беларускага дабрачыннага фонду ў Вялікабрытаніі.***

***Сузаснавальнікамі Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане, былі айцы Леў Гарошка і Аляксандр Надсан. Кіраўніком Бібліятэкі аж да свае смерці 4-га кастрычніка 1981 года, быў Уладыка Часлаў Сіповіч. Памёр ён з атакі сэрца – масавага інфаркту – у часе арганізаваных і праводжаных ім урачыстасцяў у гонар 10-х угодкаў Беларускай бібліятэкі імя Франьцішка Скарыны.***

***З таго часу па сёння дырэктарам Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане, Англіі ёсць айцец Аляксандр Надсан, якога 75-ты юбілей жыщця сёлета адзначае беларускае грамадства ўсяго свету. У сувязі з ягоным юбілеем разам з зычэннямі, да якіх далучаецца і беларускае грамадства Канады, газеты "Наша Ніва", "Наша слова" ды іншыя шырака расказваюць пра душпастырскую, навуковую і грамадскую дзейнасць ды самую асобу юбіляра – а. Аляксандра Надсана, Апостальскага візітатара для беларусаў каталікоў замежжа.***

***Прапануем чытачам "Нашага слова" артыкул Раісы Жук-Грышкевіч, змешчаны ў амерыканскай газеце "Беларус" у 1971 годзе..***

Беларуская грамадскасць Вялікабратаніі, згуртаваная вакол Дому марыянаў, ЗБВБ і Англа-беларускага таварыства, 15 траўня ўрачыста адзначыла гістарычную падзею адкрыцця і высвячэння першай у такім маштабе за межамі Беларусі Беларускай бібліятэкі і музея Францішка Скарыны ў Лондане.

Імпазантны будынак ББіМФС знаходзіцца ў Фінчлеі, прыгожым, багатым на зелень і кветкі, раёне Лондана. Побач яго два падобнага стылю дамы Беларускай школы і інтэрната Св. Кірылы Тураўскага, а насупраць праз вуліцу Гоўльдэн Роўд – Дом беларускіх марыянаў. Управу ББіМФС ачольвае Біскуп Часлаў Сіповіч, бібліятэкар – а. Аляксандр Надсан, ён-жа і дырэктар школы Св. Кірылы Тураўскага.

Урачыстасці, што трывалі два дні, былі ўкараnаваннем блізу чвэрцьвяковай працы, дэтэрмінацыі і веры біскупа Часлава Сіповіча, які яшчэ ў 1947 г., як малады святар, пачаў працу над зарганізаваннем бібліятэкі і музея, прыцягнуў да яе не толькі беларускія навуковыя сілы, але і здабыў прыхільнасць і дапамогу чужых вучоных і эстэтаў, з якіх у першую чаргу належыцца ўспомніць сакратара Англа-беларускага Таварыства сп. Г. Дэ Пікарду. Здабыў падтрымку беларускага грамадства не столькі ў Вялікабрытаніі, але і ўва ўсім свеце.

15 траўня, у суботу а гадзіне 16.30, у паважнай узвышана-святочнай атмасферы ў прысутнасці выдатнай шматнацыянальнай аўдыторыі прафесар параўнаўчай славянскай філалогіі ва ўніверсітэце Оксфарду Роберт Оты выканаў абрад адкрыцця бібліятэкі і музея адсланеннем мармуровай табліцы, што вісіць праваруч пры ўваходзе ў бібліятэку, з надпісам:

***"Гэтая Беларуская бібліятэка і музей, названая ў гонар Францішка Скарыны з Полацка, была адкрытая 15 траўня 1971 г. прафесарам Робертам Оты ў прысутнасці Яго Дастойнасці арцыбіскупа Дамініка Энрычы Апостальскага дэлегата ў Вялікабрытаніі".***

Малітвай высвячэння быў прачытаны спярша пaангельску, а пасля Уладыкам Чаславам Сіповічам пастарабеларуску арыгінальны Скарынаў тэкст 126-га Псалму, узятага з Псалтыра, выдадзенага Францішкам Скарынам у Празе Чэшскай 1517 г. Яго Дастойнасць Арцыбіскуп Дамінік Энрычы пасвяціў 12 залаў двухпавярховага будынка ББіМФС.

У прасторнай, светлай, прыемна ўладжанай чытальні, на фоне паўколам высунутых у сад вакон, праз якія заглядала зелень дрэў і пышнасць кветак, прамаўляў прафесар Раберт Оты і Апостальскі дэлегат у Вялікабрытаніі арцыбіскуп Дамінік Энрычы. Тады ўсе перайшлі ў яшчэ большую, перапоўненую гасцямі (больш за сто чалавек) залу. Тут з прамовамі выступалі: заступнік бургаміcтра Фінчлея і Барнэта сп. Фрыдман, ад Англа-беларускага таварыства ягоны старшыня Аберон Герберт, ад беларускіх арганізацыяў Канады др. Раіса Жук-Грышкевіч, ад ЗБВБ старшыня Ян Міхалюк, ад беларускіх арганізацыяў Францыі старшыня "Хаўрусу" мастак М. Наўмовіч. Напошку прамаўляў заснавальнік і гаспадар Беларускай бібліятэкі і музея Францішка Скарыны Яго Дастойнасць біскуп Часлаў Сіповіч. У сваёй патрыятычнай прамове ён дзякаваў Богу і ўсім тым, што працаю і чым толькі маглі дапамаглі і спрычыніліся да таго, што мы сёння маем Беларускую бібліятэку і музей за межамі Беларусі. Ён вітаў і дзякаваў шматнацыянальным гасцям, што сваёй годнай прысутнасцю ўшанавалі гэтак важную для нас урачыстасць. Сярод гасцей былі дастойнікі розных веравызнанняў, навуковыя сілы, як прафесары і лекары ангельскіх універсітэтаў, мастакі, літаратары, журналісты, прадстаўнікі Брытанскага музея, які ў сваіх сховах мае кнігі нашага Скарыны, сябра парламенту, прынцы, лорды, графы, палітычныя і грамадскія дзеячы розных нацыянальнасцяў, прадстаўнікі банка і прэсы.

Ад беларускіх арганізацыяў, апрача Вялікабрытаніі, былі прадстаўнікі з Францыі, Нямеччыны і Канады. Апрача таго, Управа ББіМФС атрымала пісьмовыя прывітанні абсалютна ад усіх беларускіх асяродкаў вольнага свету, ды безліч прывітальных лістоў ад розных іншанацыянальных асоб і установаў.

Пасля афіцыйнае часткі прысутныя былі запрошаны ў буфет. Віно на падносах разносілі і частавалі гасцей вучні Беларускай школы Св. Кірылы Тураўскага. Іхнія багата вышытыя беларускім арнаментам нацыянальныя кашулі дасканала гарманізавалі з афіцыйнай вопраткай біскупаў і прэлатаў, з тогамі акадэмікаў ды нарэшце туалетамі дам. А сталы з стравамі – гэта мастацтва само ў сабе. Яно старанна было абліччанае на падвойны эфект: зрокавы і смакавы. Ды трэба адзначыць, што наогул усё ўладжанне ў бібліятэцы і музеі, нат у найдрабнейшых дэталях зраджае чулае на эстэтыку вока і дбайлівую ўмелую руку. Час ад часу абвешчаны быў адыход нейкага шаноўнага госця. У перапоўненай спярша зале зрабілася вальней. І хлопцы ў нацыянальных беларускіх кашулях, што частавалі нас вінoм, цяпер пад кіраўніцтвам сп. Г. Пікарды пачасталі нас такім канцэртам беларускіх народных песень, што цяпло, туга і радасць разлілася па душы.



Будынак Беларускай бібліятэкі і музея Францішка Скарыны ў Лондане

Наступны дзень 16 траўня прысвечаны быў вылучна для беларусаў. Раніцай у царкве Святых Апосталаў Пятра і Паўла Яго Дастойнасць Уладыка Часлаў у суслужэнні з Айцамі Язэпам Германовічам і Аляксандрам Надсанам ды двума прыслужнікамі (вучні беларускай школы) адправілі Св. літургію. Спяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Г. Пікарды. Апостала чытаў па-беларуску з наўздзіў прыгожай вымовай вучань школы Св. Кірылы Тураўскага Марак Саўка-Міхальскі. Казань Уладыкі Часлава была прысвечаная Францішку Скарыну, які не толькі быў вялікім вучоным ды гуманістам заходнееўрапейскага маштабу, але перадусім чалавекам глыбока рэлігійным, што пераклаў святыя кнігі на родны "язык", у якім "міласцівы Бог" яго "на свет пусціў", ды патрыётам свае Бацькаўшчыны.



Біскуп Часлаў Сіповіч, Апостальскі дэлегат у Вялікабрытаніі арцыбіскуп Дамінік Энрычы, ізраільскі рабін Баўм, віцэ-бурмістр лонданскай акругі Фіншлей і Барнэт сп. Фрыдман з жонкай разглядаюць архіўвальныя беларускія старадрукі ў музеі

"Магутны Божа" ў Лондане спявае хор нейак інакш, прыцішаным, насычаным пачуццём голасам, а чытач "Беларуса" можа набыць яе ў мясцовай беларускай арганізацыі.

Скажам тут толькі, што ББіМ ФС у сваіх каштоўных зборах мае між іншага 15 кніг фатаграфічных рэпрадукцый Францішка Скарыны, выдадзеных ім у Празе (1517-1519) і Вільні (1525), такой-жа рэпрадукцыі Літоўскі Статут (1588), выдання Братоў Мамонічаў у Вільні, значны збор рэдкіх беларускіх кніг канца 19-га і пачатку 20-га стагоддзя, багатыя зборы навейшых кніг, 220 камплетаў беларускіх газет і часопісаў, каля 100 старых картаў Беларусі, шмат мікрафільмаў і дасканалы апарат да чытання іх, а між цікавымі экспанатамі музея -- арыгінальныя слуцкія і гарадзенскія паясы.

бышчам спеў быў прызначаны не для людскога, а боскага вуха, быццам ціхая малітва трапляла да Госпада хутчэй, як галосная.

Пасля Багаслужбы ў чытальні бібліятэкі адбыліся тры даклады: айца Аляксандра Надсана – "Сучасны стан беларускай бібліяграфіі", сп. Г. Пікарды – "Беларусіка ў розных бібліятэках Еўропы" і Р. Жук-Грышкевіч аб беларускім арганізацыйным жыцці ў Канадзе. Пасля дакладаў супольны абед, супольная бяседа, супольная песня.

Аб гісторыі, арганізацыі, выглядзе каштоўных збораў рэдкіх і меней рэдкіх кніг, часопісаў, газет, мікрафільмаў, экспанатаў Беларускай бібліятэкі і музея вобразна і дакладна інфармуе цікава напісаная паангельску, эстэтычна выдадзеная кніжыца "Беларуская бібліятэка і музей Францішка Скарыны". Кніжыца выдадзеная была з нагоды адкрыцця ББіМ, ейны аўтар – ганаровы сакратар Англабеларускага таварыства сп. Гай дэ Пікарда. Удзельнікі святкавання атрымалі яе на памятку гістарычнае падзеі,

Прадаўжэннем урачыстасцяў адкрыцця ББіМФС, хоць не ў даслоўным гэтага слова значэнні, але асабліва для гасцей здалёк, была лекцыя прафесара Джэймса Дынглея (універсітэт у Рыдынгу) – Войска Вялікага княства Літоўскага ў 16-тым стагоддзі". Фактычна была гэта 5-я з чаргі лекцыя Курсу беларусаведы 1970-1971 акадэмічнага года. Гадавыя Курсы беларусаведы, якія стаяць на высокім акадэмічным узроўні, арганізуе ўжо пяты год Англа-беларускае таварыства. Лекцыі адбываюцца ў элегантным зале Бэрлінгтон-Дому на Пікадылі. Англа-беларускае таварыства, ачоленае лордам Гарлехам, пад старшынствам Аберона Герберта выдае ад 1965 г. паангельску "Журнал Беларусаведы", сябры яго, не толькі беларусы, працуюць над развіццём ББіМФС. Тым чынам Англа-беларускае таварыства робіць вельмі паважны ўклад ў галіну беларускай навукі і культуры ды ўзаемна дапаўняе дзейнасць БІНіМ у Амерыцы, публікацыя якога, "Запісы", выходзяць па-беларуску.

На заканчэнне выказваючы прызнанне і пажаданні плённай працы заснавальнікам і будаўнікам Беларускае бібліятэкі і музея Францішка Скарыны ў Лондане, так і хочацца выразіць надзею з пажаданнем: Да спаткання на адкрыцці Беларускай бібліятэкі і музея ў Амерыцы.




Праф. Роберт Оты адсланяе мармуровую таблiцу пры ўваходзе ў Беларускую бібліятэку і музей Францішка Скарыны ў Лондане

*Раіса Жук-Грышкевіч,*

***БЭРЫ – ТАРОНТА***
***Верасень, 2001.***

Алесь Петрашкевіч

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Сатырычная камедыя)

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары)*

**АХМЕТ.** А беларусам усё адно – что акупацыя, што інтэграцыя...

**ЯНКЕЛЬ.** Дай ім, Бог, здароўя, і нам не будзе горш, што мы маем...

*Тым часам гульцы зноў разбіраюць касцяшкі.*

**ТАРАС.** Одын-одын! *(Стукае касцяшкай).* Прошу, канешне, ізвініць, але ў нас атрымоўваецца какой-та .... інтэрнацыянал...

**ІВАН.** Один-два.

**АХМЕТ.** Бір-экі, догмуш начальнік.

**ІВАН.** Интернационал не может быть б... Интернационал может быть только пролетарским и коммунистическим.

**ТАРАС.** Або першым, другім, трэцім іли паследнім...

**ЯНКЕЛЬ.** Адзін-чатыры, пажаласта!

**ІВАН.** В данном конкретном случае мы имеем интернационал по-белорусски. И я бы хотел...

*Янка-нямко зноў стукае.*

**ТАРАС.** Прашу ізвініць, но ты, Іван Іванавіч, такой пралетар, як мы з Янкелем мільянеры. Одын-пяць... *(На стук Янкі-нямко)* Каб ён галавою стукаў!

**ІВАН.** Я – пас.

**ТАРАС.** А які ў нас пралетар Ахмэт, хай он сам скажэт.

**АХМЕТ.** Ахмет – пас. Мы, татары, народ алчакъгонъюльліміз сціплы, а вось Іван Іванавіч няхай скажа.

**ЯНКЕЛЬ.** Янкель таксама – пас.

**ІВАН.** Фаршмак! В смысле рыба. *(Раскідае касцяшкі).*

**АХМЕТ.** Тым больш, хацелася б перад новымі выбарамі паслухаць біяграфію акъыдды мудрага суседа...

*Янка-нямко выходзіць з кватэры і знікае.*

**ІВАН.** Да, я не такой уж пролетарий, как бы некоторым хотелось. *(Разлівае гарэлку ў чаркі).* Но и не миллиардер, от чего вы все лопнули бы от зависти. Но морально я богат. Как-никак, а я – слуга народа, сенатор и паралельно, фактически подпольно, руководящая и направляющая сила или, как говорили раньше, ум, честь и совесть нашей эпохи на общественных началах. Или вам показалось, что став директором, я перестал быть секретарем?.. И если вы – народ, то я с народом. Но в первую очередь с коренным, аборигенным, а не с нацменшиствами, которые должны знать своё место перед "старшим братом". А то на вас понадеешся, а вы однажды хвостами накроетесь и кто в Крым, кто в Палесье, а кто и в землю обетованную. "В истории мы тьму примеров слышим, но мы истории не пишем, а лишь о том, что в сказках говорят".

*Янка-нямко цягне ў кватэру бярэмя драўляных рэек.*

**ТАРАС.** Намёк понялі. *(На Янку-нямко).* Што ён там будует, этот прыдурак?

**ІВАН.** Тогда по маленькой под рыбу *(выпівае сваю чарку)* и в соответствии с регламентом переходим к прениям. А за одно и в дурачка перекинемся. *(Вымае з кішэні карты і пачынае раскідаць іх на чацвярых).*

**ЯНКЕЛЬ.** Даруйце, але Янкель не можа. Бо сказана ў пісанні: "Начав падать не остановишься". А карты такое дзела...

**АХМЕТ** *(адсоўвае ад сябе карты).* Тут мы, мусульмане, з іюдзеямі за адно... Валлаг коре ве, Валлаг не даруе.

**ІВАН** *(Тарасу).* Тогла давай с тобой, потенциальный униат, а эти штрейкбрехеры пущай посмотрят, кто из нас умней. *(Перадае карты).* Прения по текущему моменту – поралельно игре в дурачка. Кто выступит первым? Только коротко и умно, а не так как некоторые в парламенте и по телевидению... Так кто – умно и кратко?..

*Гульня ў падкіднога ідзе паралельно размовам. Грукоча Янка-нямко ў сваёй кватэры.*

**ЯНКЕЛЬ.** У гэтай стране любога дурня могуць назваць вумным, таму няхай першы пра свой гешэфт скажа Ахмет, а я пасля скажу пра сваю каналізацыю.

**АХМЕТ.** Калі б вашы былі разумныя, то даўно б вярнулі нашым дурням не толькі Галандскія вышыні. І ты б не сядзеў на сваёй каналізацыі, а твой камок стаяў бы побач з маім дзе-небудзь у Ерусаліме ля самай Камароўкі... Можа мы, як кажуць, нічому не навучыліся, але ж нічога і не забыліся. Мой дзед гандляваў салодкімі пеўнікамі, а я, ды даруе мне Усявышні, гандлюю рускай горкай, прападзі яна пропадам.

**ЯНКЕЛЬ.** Вось за гэту вашу дурацкую памяць і доўгі язык вас і не любяць ў Тэль-Авіве. У тутэйшых, у тутэйшых, дарагі мой, трэба вучыцца. У іх ужо даўно адабралі ўсё, што яны толькі мелі, а няшчасныя ўсё адно, як той Нямко, і прыязныя, і дабразычлівыя, і талерантныя. А паслухай, як стукаюць і пілуюць! Трудаголікі! І маўчаць, як рыба аб лёд. А ты ўсё вякаеш і вякаеш за іншых...

**ІВАН.** Реб Янкель, ты политизируешь аудиторию и занимаешься популизмом. А здесь тебе не парламент и не синагога. Потому я тебя отключаю, а Тараса Тарасовича включаю.

**ЯНКЕЛЬ.** Канешне, беднага габрэя вы маглі адключыць і раньше.

*Янка-нямко выходзіць з кватэры і знікае.*

**ІВАН.** Пререкания со спикером у нас не допускаются!.. Доложи, товарищ майор, что у вас там в силовых структурах...

**ТАРАС.** Не бяруся сказаць за структуру ў цэлым, а па маёй епархіі ўсё ў абажуры. І ва ўсіх закутках ціха, как на кладбішчы. Крадзяжу анiякага, разбоі і грабяжы ўпалі да нуля, бо ўсё даўно распраўвацізіравана, разграблена, раскрадзена і за Смаленск вывезена. А каго каму трэба было забіць, таго даўно забілі ці зарэзалі. У ГАІ таксама ўсё у парадку. Ні сутычак машын, ні нарушэнія руху, бо на запраўках не толькі даўно не цячэ, але і не капает. Проізвосьцьвеннага траўматызму – ні працэнта, бо ўсе фабрыкі і заводы запушчаны і ... даўно стаяць дзёўбам. А бэзработныя выехалі ў тую ж Польшчу на спекуляцыі. Бяздомныя і старцы даўно паўмiралі, бо нет у каго прасіць. Пахаронная каманда гарвыканкому работает, как у войну. Інваліды і пенсіянеры, каторыя шчэ жывыя, таксама на вуліцу не выходзяць, бо па такой пенсіі, як яны палучаюць, здоровы і малады ног не павалачэ. Бабы таксама больш не раджаюць, бо мужыкі па такому харчу больш не можуць. І здаецца мне, уважаемый Іван Іванавіч, што гэта і прышол якраз тот самы полны і развіты капіталізм, ад якога пара вазврашчацца к сацыялізму, хоць бы і недаразвітаму.

*Янка-нямко цягне ў сваю кватэру яшчэ адно бырэмя рэек.*

**ІВАН.** Но это еще вопрос, куда нам "вяртацца" – в империалистический капитализм или в социолизм рыночный.

**ТАРАС.** І каб нашы сілавыя структуры аканчацельна не разлажыліся і не пратухлі, седзячы ў абароне парламэнту і ўраду, я думаю вам, как дзепутату, нада было б даць савет генерал-губернатару кінуць іх проціў таго электарату, который галасавал проціў... Спасіба за ўніманіе, шаноўны наш голова, Іван Іванавіч.

**ІВАН.** Я должен сказать, что где-то в чем-то честно, умно, но длинно. Третий микрофон. Слово представителю малого народа Ахмету Ажгирею Бут-Гусаиму Хусеину Кончаку Александровичу-оглы.

**АХМЕТ.** Мы, татары, не лезем у палітыку. Мы ўзялі патэнт і гандлюем толькі тым, што нам паслаў шаноўны Іван Іванавіч. Я скончыў. Шчырае вам дзякуй і тешеккюр па-татарску.

**ІВАН.** И что, никаких вопросов?..

**АХМЕТ.** Ёкъ! Ёкъ!.. Хіба толькі адзін. Нам, гандлярам, вядома колькі тутэйшыя і рускамоўныя п'юць. Але мы зусім не ведаем, чым яны цяпер закусваюць. Я зноў скончыў. Дзякуй, што і нам, татарам, слова далі, а мы яго па-тутэйшаму сказалі, бо нашу мову ў нас адабралі яшчэ раней, чым у іх.

**ЯНКЕЛЬ.** Што б вы сказалі, калі б у вас адабралі тое, што ў свой час адабралі ў нас?..

**ІВАН.** Кто прошлое помянет, тому глаз вон... кто бы он не был!

**ТАРАС.** А хто саўраменнае памянёць, таму – два. *(Рагоча).*

*Грукоча Янка-нямко. Ахмет зачыняе яго дзверы. Іван Іванавіч і Тарас Тарасавіч актыўна гуляюць у карты.*

**ІВАН.** Первый микрофон. Говори, реб Янкель, а то ты всё шумишь, права человека качаешь, что тебе демократии мало, что страна не та...

**ЯНКЕЛЬ.** Можна падумаць, што наш Ахмет такі ж наіўны, што не ведае, чым народ закусвае. Калі па-конску піць і па-свінячы закусваць, а свіння нам, іюдзеям, такая ж багамерзкая, як і братам-мусульманам, то гэта яшчэ не голад. І суседу Ахмету, як і суседу Тарасу, не варта згушчаць фарбы і лезці ў капіталізм, калі нас і з сацыялізму яшчэ ніхто ў шыю не гоніць.

**АХМЕТ.** Ахмет мен разым і не пярэчыць.

**ІВАН.** Короче!

**ЯНКЕЛЬ.** Калі "короче", то голад, паверце майму слову – гэта калі павукі заплятаюць чалавеку тое месца, куды ён павінен клізьму ставіць. А ў нас да гэтага, слава Богу, яшчэ не дайшло, хоць пры такой бязглуздай уладзе да вясны, кажуць, дойдзе.

**ІВАН.** И чего же вы хотите, реб Янкель?

**ЯНКЕЛЬ.** Пры такім сабачым жыцці, якое вы стварылі для беларускага інтэрнацыяналу, я проста не ведаю, чаго і хацець.

**ІВАН.** Значит и у тебя никаких вопросов?

**ЯНКЕЛЬ.** Чаму "никаких"? Ужо скора сем гадоў, як я думаю, калі ўжо скончыцца бардзель у нашай дзяржаве і калі нашы вертыкальныя і гарызантальныя слугі, як тыя старыя прасцітуткі, хоць каму-небудзь прададуцца за добрыя грошы, каб, падзяліўшы, усім хапіла.

**ТАРАС.** Можна падумаць, што ў нас толькі слугі прадаюцца. У нас уся дзяржава прадаецца, ды ніхто купляць не хочэт. Я б і сам даўно прадался, але ж каму?.. А з цябе, Янкель, я возьму не толькі падпіску аб нявыездзе, але і атпячаткі пальцаў *(Кідае апошнюю карту).* Бо ты есць адпеты агент уліянія... Туз бубновы, казырны!

**ІВАН** *(незадаволена).* Ну, и что ты со своим тузом?..

**ТАРАС.** О, мамо рідна! У мяне паследняя карта, а ён шчэ не разумее, што не только казёл, але і дурань! За што па старой квоце палагаецца дзесяць удараў картаю па носе. І дэпутацтва тваё тут сілы не імеет, хоць ты і персона нонграта с імуніцетам.

**ЯНКЕЛЬ.** Дай, Боже, мне не хуже, як сказана ў пісанні. Але калі трэба, то мы клічам Нямко?...

**ТАРАС.** Трэба, Янкель, дужа трэба. Якім бы дурнем Іван не буў, але ж падстаўляць свой руководяшчый нос пад эту паршывую карту, значыць, пакалебаць не только яго дэпутацкую недатыкальнасць, но і сувэрэнітэт нашай независимой і нейтральнай, якая ў канцы канцоў должна зліцца-склешчыцца з яго вялікай і недзялімой...

**ІВАН.** Спасибо, друг! Спасибо, брат!

*Янкель Янкелевіч ідзе ў кватэру Янкі-нямко.*

**АХМЕТ.** А мне шкада гэтага няшчаснага. Для маскаля ён – недлапечаны рускі, для яцвяга – абарыген, для ляха – быдло, а габрэі – самі народ богаабраны. Толькі мне беларус – уайкен ага, брат ды яшчэ і старэйшы, бо на зямлю сваю блаславенную нас, татараў запрасіў і палюдску жыць даў. І тое сваё, што татары даўно згубілі, у брата нашага на нашых вачах адымаюць, ды яшчэ картамі па носе б'юць.

**ІВАН.** Чево-чево?

**АХМЕТ.** Доскулукъ, мусавійлік, бірадерлік – дружба, кажу, роўнасць і братства... Інтэрнацыянал, словам...

**ТАРАС.** Відалі, які філосаф?!

*Янкель прыводзіць Янку. Ён становіцца на калені перад Тарасам Тарасавічам. Той бярэ некалькі картаў і пачынае біць імі тутэйшага па носе. Чым мацней экзекутар б'е, тым гучней астатнія рагочуць. Пры першых ударах смяецца і Янка. Ад наступных яму не да смеху. Зусім нечакана з сваіх дзвярэй выходзіць Юзаф Тадэвуш. Ён у шыкоўным гарнітуры-тройцы. Пры белай сарочцы чырвоная "бабачка", на галаве капялюш, як у самога дзядзькі Сэма. У адной руцэ парасон, у другой – бялюткія пальчаткі. Заместа калматай нячэсанай барады – шыкоўныя бакенбарды і модныя вусікі. Такое ўражанне, што гэты джантальмен выйшаў не з сваёй каморкі, а з казіно дзе-небудзь у Манака ці на Канарскіх выспах. Ашаломленыя суседзі не толькі здзіўлена разглядаюць франта, але і абмацваюць яго. Ачомаўшыся Янка-нямко паўзе на каленях да Юзафа Тадэвуша. Здзіўлена енчыць.*

**ТАРАС.** О, то фраер! О, то да! О, то дзіва дзіўнае! *(Ідзе вакол Юзафа).*

**ЯНКЕЛЬ.** Каб я быў жыў, калі гэта не пан Юзаф Тадэвуш Пшэляхавіцкі?!

**ЮЗАФ** *(забірае з рук Тараса Тарасавіча карты).* Даю табе волю, спадар Янка, *(за каўнер падымае яго з калень)* на падставе Дэкларацыі аб правах чалавека, якую наш пан дэпутат даўным даўно ратыфікаваў. *(Да ўсіх прысутных).* Для задавальнення ж вашых высокіх інтэлектуальных патрэбаў прапаную пралетаска-буржуазную гульню ў "дваццаць адно". *(Кладзе на стол пачак грошай).* Стаўлю 100 мільёнаў! *(Кідае карту Ахмету Ажгірэю-аглы).* Пан дробны гандляжу, чакам тваю стаўку.

**АХМЕТ** *(не думаючы).* Стаўлю пяць мільёнаў!

**ЮЗАФ** *(бярэ сабе карту).* Трымай карту, галгане!

**АХМЕТ** *(падглядае карту).* Яшчэ! Яшчэ!.. Алах Акбар! *(Хапаецца за галаву).* Эгер чокъ олсы – джуонъ олур! Перабор, трасца яго матары!

*(Працяг у наступным нумары.)*



№ 40 (528) 10 КАСТРЫЧНІКА 2001 г. Наша слова

# ЦАНА БЕЛАРУСКАГА СЛОВА І БЕЛАРУСКАЙ ДУМКІ: РАСТРЭЛ У МЕНСКУ

***Некалькі месяцаў таму, пры распрацоўцы патрэбнай тэмы, мне трапіла кніжка ўспамінаў сучаснікаў аб менскім жыцці ў сярэдзіне XIX ст. Хоць і вельмі коратка апісаныя, але настолькі выразна паўставалі з яе старонак гісторыі кахання і смерці, эпізоды з жыцця найбольш адметных гараджан, шчаслівыя і трагічныя падзеі і шмат іншага, што ў свядомасці ўзнікла такая жывая карціна жыцця горада, што здавалася, нібыта гэта твая памяць ўспамінае даўняе забытае. Вось некалькі партрэтаў: маладыя вайскоўцы і цывільныя, дзяўчаты са строгім і простым позіркам. Прозвішчы невядомыя мне. Хто яны? Аказалася, што дзяржаўныя злачынцы, катаржнікі, высланыя і пакараныя смерцю за падтрымку паўстання 1863 года. Прачытанае не хацела захоўвацца ў тых спакойных кутках памяці, дзе ў кожнага з нас так многа інфармацыі і ведаў, якія, часам вельмі трапна можна ўжыць, а можа больш і не ўспомніць. Наадварот, прымусіла выкройваць час, праглядаць мноства выданняў, шукаць, шукаць… . Пра аднаго з гэтых юнакоў і пра ўсіх менчан гэты артыкул.***

***В. Чарленская.***

**"…если я оказал какую-нибудь услугу России, это тем, что я доказал, что Западный край есть русский!"**

**М. Муравьев.**

Ясным ранкам 2 чэрвеня 1863 г. (ці 21 траўня па ст. ст.) на адным з менскіх пляцаў растрэльвалі 23-х гадовага маладога чалавека, афіцэра расейскай арміі Міхала Цюндзявіцкага. Малады афіцэр быў асуджаны на смерць, як асабліва небяспечны дзяржаўны злачынца – у карчме вёскі Камень Барысаўскага павету ён прачытаў сялянам напісаную па-беларуску ўлётку Кастуся Каліноўскага.

Смяротныя прыгаворы над паўстанцамі 1863 г. выконваліся па спецыяльна зацверджанаму рытуалу, публічна, у прысутнасці цывільнага насельніцтва.

Месца страты М. Цюндзявіцкага – нізінны пляц пад Менскам – быў шчыльна ачэплены войскам, на пагорках вакол яго паставілі пушкі, а за войскам тлуміліся менчукі і жыхары навакольных вёсак. Яны маліліся і плакалі. Міхала правялі міма артылерыйскіх гармат, праз вайсковы шыхт. У натоўпе ён убачыў сяброў і павітаў іх. Калі хлопца паставілі да фатальнага слупа, якаясь дзяўчына з вёскі Палоннай кінула яму на дол пучок кветак. Апошнія словы Міхала былі звернуты да катаў з адмовай завязаць чорную павязку: "Я -- салдат і змагу пагля- дзець смерці ў вочы". Залп і аглушальны барабанны бой узарвалі той пяшчотны сонечны дзень. "Годна ішоў на смерць", - сказаў адзін з афіцэраў-карнікаў.

Як перажыла гібель сына, прыехаўшага ў водпуск, вялікая сям'я ўсімі паважанага маршалка Барысаўскага павету Мельхіёра Цюндзявіцкага, іх шматлікая радня і блізкія, сёння невядома.

Але смерць М. Цюндзявіцкага жахліва ўразіла жыхароў Менска. Звыш трох месяцаў, пакуль "высочайше учрежденная камісія па палітычных справах у Менску разглядала віну арыштаванага, у горадзе спадзяваліся на яго вызваленне. Смяротны прысуд, вынесены ваенным трыбуналам пры штабе 3-й пяхотнай дывізіі, жудаснаю весткаю абляцеў горад. Яго невытлумачальная жорсткасць нават пакідала ў многіх надзею, што адбылася памылка і вырак будзе заменены. Аднак менчукі памыліліся. Генерал-губернатар Віленскай губерні, граф М. Мураўёў, які прыняў гэта рашэнне, адзіным сродкам выкаранення свабодалюбства беларусаў бачыў вынішчэнне тых, хто адважыўся яго выразіць.

Міхала нават вайсковая адукацыя, ён скончыў першы кадэцкі корпус у Санкт-Пецярбургу, не ўхіліла ад лёсу, які на працягу многіх дзесяткаў гадоў быў накаваны беларускай моладзі. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю ў расійскіх сталіцах – Санкт-Пецярбургу, Маскве, яны не толькі не засвойвалі імперскага светапогляду, не адчувалі сябе расіянамі, але выказвалі незалежніцкія думкі, не ўтойвалі літоўскага патрыятызму, марылі аб аднаўленні ВКЛ і Рэчы Паспалітай абодвух народаў. Дзеля чаго прымалі ўдзел у падпольных згуртаваннях і збройных паўстаннях. За гэтай моладдзю вёўся нагляд і больш паловы яе пасля заканчэння універсітэтаў і вяртання ў край, не вытрымаўшы іспыту на палітычную лаяльнасць, каралася высылкамі на Каўказ, у Сібір і другія аддаленыя мясціны Расійскай імперыі. Да такіх патрыётаў належаў і Міхал Цюндзявіцкі – нашчадак старога беларускага шляхецкага роду, чые продкі з сярэдзіны XVIII ст. рупліва вялі гаспадарку ва ўласных маёнтках Нача, Віліянава, Кішчыная Слабада, прызначаліся і абіраліся на відныя пасады ў Оршы і Барысаве. Сярод прадстаўнікоў гэтага роду былі яркія таленавітыя асобы, патрыёты, выдатныя гаспадары. Нельга не назваць высокародную цётку Міхала – Ганну Цюндзявіцкую (1803-1850 г.г.), выдатную гаспадыню Кішчынай Слабады, - адну з першых арганізатарак жаночага руху на Беларусі, аўтара двух надрукаваных і шмат разоў перавыдадзеных кніг гаспадарчага зместу.

Малады прапаршчык Міхал Цюндзявіцкі у 1862 г. быў прызначаны ў Горадню ў 3-ю артылерыйскую брыгаду, затым ён быў пераведзены ў 8-ю артылерыйскую брыгаду, якая размяшчалася на Кіеўшчыне. Было гэта не выпадкова: у сувязі з антырасійскімі рухамі ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве выконвалася таемнае распараджэнне ўладаў аб перамяшчэнні афіцэраў-ураджэнцаў гэтых краёў у глыб Расіі.

Чаму М. Цюндзявіцкі стаў такой лёгкай ахвярай рэпрэсіўных службаў?

Магчыма, што да гэтай трагедыі прывялі юнацкая неабачнасць і рызыка, а магчыма ён не бачыў іншага шляху прасвятлення свайго прыгнечанага люду, як адкрытае, публічнае выступленне. На Беларусі, і таксама ў Менску, ужо з 1861 г. атмасфера была, як наэлектрызаваная, сведчылі сучаснікі. Жыхары шматнацыянальнага і шматканфесійнага горада перажывалі незвычайны патрыятычны пад'ём і духоўную еднасць: яны рыхтаваліся да вызвольнага паўстання. Калі ў Польшчы ў студзені 1863 г. выбухнула паўстанне, а потым пачаліся збройныя дзеянні і на Беларусі, на Меншчыне падпольна ўжо былі створаны новыя ўладныя органы, у прыватнасці – ваяводамі менскай губерні сталі памешчыкі Пелі і Г. Лапіцкі, упаўнаважанымі камісарамі – любімец менчан Б. Свентаржыцкі, Ямант, М. Аскерка, начальнікам менскага павету – Б. Аскерка. Аднак падрыхтаваць Менск да збройнага выступлення не здолелі. Патаемна гараджане спрабавалі выходзіць з горада, каб уключыцца ў аддзелы інсургентаў, аднак нярэдка на дарогах іх арыштоўвалі рускія войскі. Карнымі і іншымі мерамі ўлады апанавалі неспакойны горад. Але не здольны былі знішчыць настроі і ідэалы менчан.

Людзі не маглі пакінуць і забыць тую самотную магілку, дзе неслі бесперапынную варту рускія салдаты. Штовечар незлічоны натоўп людзей розных станаў, узростаў, веры, нацыянальнасцяў, у жалобных строях, запаўняючы вуліцы, цягнуўся з горада да свежай магілы Міхала. Стаялі дзівосныя ціхія вечары канца вясны-пачатку лета. Лёгкі ветрык атуляў зямлю і ледзь парушаў галінкі бяроз і таполяў. Людскі натоўп, як чорная хмара, атуляў магілу з трох бакоў, а з чацвёртага боку стаяла вайсковая варта. Менчане ўкленчвалі і з глыбокай засяроджанасцю спявалі Божы анёл і Вечны спакой". Тым часам чыёсь дзіця збірала прынесеныя кветкі і ўскладала на магілу. Потым адна з жанчын чытала малітву за памерлых і людзі зноў спявалі, затым наступала цішыня, якая перапляталася з шапаценнем збожжа за магілай Міхала. Наступала ноч і цэлы гэты натоўп, як успаміналі ўдзельнікі, яшчэ нядаўна раз'яднаны, а цяпер ахоплены аднымі думкамі і пачуццямі, пранізаны адным болем, збратаны і ў дзіўнай цвёрдасці духу маўкліва адыходзіў у горад. Так было ў Менску напачатку лета 1863 года, так маліўся народ за сваіх пакутнікаў.

Гэты маўклівы пратэст выклікаў жорсткую рэпрэсію з боку расійскіх уладаў. Чорныя ўбранні дзяўчат і жанчын, жалобныя павязкі на рукавах мужчын, высокія боты, паясы і ўпрыгожванні з сімваламі Вялікага княства Літоўскага білі ў вочы: менчане аддзялілі сябе ад акупацыйнай улады і арміі. Новыя звесткі аб ахвярах, якія неслі інсургенты, пашыралі смутак ў Менску і распальвалі жаданне ўдзельнічаць у збройных выступленнях. Становішча было пагрозлівым і ўлады безупынна шукалі спосабаў апанаваць нарастаючы бунт, утрымаць насельніцтва ў падначаленні. У натоўпах людзей, якія штодзённа хадзілі маліцца на магілу Міхала Цюндзявіцкага, спецыяльныя агенты, перапісвалі ўдзельнікаў. Гэтыя звесткі былі выкарыстаны для правядзення масавых арыштаў. Наступным рэпрэсіўным дзеяннем быў загад менскага цывільнага губернатара ад 9 чэрвеня, які забараняў нашэнне жалобы, акрамя выпадкаў дакументальна падцверджанай смерці родных. Праявы ж грамадзянскай жалобы караліся вельмі сурова: безадкладнае звальненне з працы, вялікія штрафы. Загад адразу даў чаканыя вынікі: у сярэдзіне чэрвеня губернатар дакладаў, што ў горадзе знікла масавае нашэнне жалобы.

Пакаранне смерцю Міхала Цюндзявіцкага – гэта быў першы смяротны вырак, выкананы ў 1863 г. у Менску. Затым былі: 32-х гадовы вайсковец Іван Жмачынскі, 24-х гадовы чыноўнік Менскай грамадзянскай палаты Аляксандр Држневіч… Пасля разгрому паўстання пачаліся працэсы над удзельнікамі і падазронымі ў спачуванні. Безліч памешчыкаў, чыноўнікаў, гімназістаў, мяшчан і іншых гараджан і жыхароў Менскай губерніі, людзей розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў прайшлі праз следчую камісію, атрымалі прысуд, страцілі ўсю маёмасць, назаўжды развіталіся з родным горадам, былі высланы ў далёкія расійскія губерні. Многія сем'і, якія спрадвечна жылі ў Менску, ніколі больш не з'явіліся сярод менчан. Нават тыя, хто дажыў да канца тэрміну пакарання, не атрымалі права вярнуцца на радзіму.

Беларусь страціла напэўна самае каштоўнае, тых людзей: магнатаў, шляхту, светароў, навучэнцаў, мяшчан, сялян, для якіх многа значыла свабода Радзімы і асобы, якія не хацелі жыць пад акупацыяй, здольныя былі ахвяраваць сабой дзеля вызвалення ад расійскага дзяржаўнага і нацыянальнага прыгнёту, ад эканамічных умоў, у якіх раней культурны еўрапескі народ ліцвіны-беларусы на працягу XIX ст. спадаў да бядоты ды сумна вядомага някрасаўскага вобраза хваравітых і бяздольных людзей. Як каралі менчан за ідэйную падтрымку паўстання – горкая і невядомая многім пакаленням старонка лёсу нашага горада.

Царскія ўлады, са свайго боку, вынеслі ўрок, што палітычны курс у беларускім краі трэба змяняць. У беларускіх губернях па плану М. Мураўёва пачалася татальная русіфікацыя. Праніклівы генерал-губернатар надзвычай дакладна выразіў галоўную мэту далейшай дзейнасці расійскай адміністрацыі: край неабходна "обурсить"за 3 гады. Чаму такі маленькі час для гіганцкай работы па пакаранню вінаватых у мяцежных настроях, русіфікацыі сістэмы адукацыі, культуры, пераводу насельніцтва ў праваслаўе, замены мясцовага чынавенства на рускае і ажыццяўленне іншых накірункаў радыкальнай змены духу ў краі? Адказ працытую з кнігі "О польском восстании 1863 г. Рассказы очевидцев": "В три года мы его (край) обрусить сумеем, вековой работой – никогда". Падкрэслю, што гэта пісалася пра Беларусь 1863 года, калі яе жыхары амаль не размаўлялі па-руску, калі ў побытавым укладзе і культуры яшчэ моцнымі былі традыцыі ВКЛ. Але расійскія ўлады заявілі аб палітычнай волі пераўтварыць беларускі край ў сапраўдныя рускія губерні і пачалі планамерна і актыўна ажыццяўляць сістэму русіфікацыі. Аб яе праграме і ходзе ў наш час з'яўляліся асобныя публікацыі, хаця гэта велізарны недаследаваны пласт беларускай гісторыі.

Разглядаючы стан беларускіх губерняў, адзін з аўтараў названай кнігі, паслядоўна і скрупулёзна сфармуляваў цэлую сістэму сродкаў, кірункаў, форм русіфікацыі. Асобна ён спыніўся на высокім патрыятычным настроі насельніцтва, які называў польскім патрыятызмам і са сваёй пазіцыі слушна адзначыў, што "для боя нужно оружие равносильное" і прапанаваў моцы "польскага патрыятызму" супрацьпаставіць моц славянафільства.

Пройдуць дзесяцігоддзі і на рубяжы XIX-пачатку XX ст. зноў завіруюць у Менску ідэі нацыянальнага адраджэння. У віры новых думак і ідэй, якія неслі "Наша ніва" і іншыя перыёдыкі, мастацкія і публістычныя творы, свае погляды выкажа новы прадстаўнік роду Цюндзявіцкіх – Віктар Цюндзявіцкі – аўтар напісанай па-беларуску кніжкі пад назвай "Аб чым сёння гамоняць у нас на Беларусі", (Барысаў, 1906 г.), наклад якой быў канфіскаваны па загаду ўлад. Пошуку шляхоў палітычнай будучыні Беларусі яе дзеячамі і народам, "дарованные" імперскім урадам "свабоды" не дапускалі.

***В. Чарленская.***





Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Пачатак Другой сусветнай вайны застаў Сейлавічы ў складзе Польшчы. Для сейлаўцаў вайна пачалася 1 верасня 1939 года.

На момант пачатку вайны ў польскім войску аказаліся **Секяржыцкі Антон Адамавіч і Хоміч Антон Іосіфавіч** з Сейлавіч, а таксама **Ванагель Іосіф Данілавіч** з Андрушоў. У гэтай вайне ўсе яны ацалелі.

На захопленай немцамі тэрыторыі Польшчы аказаўся і **Некраш Адам Адамавіч**.

Некраш Адам Адамавіч нарадзіўся ў 1920 г. у в. Сейлавічы. З сямі год вучыўся ў Сейлавіцкай сярэдняй школе, якую паспяхова скончыў. Пасля заканчэння школы паступіў у вучэльню г. Познані, дзе вучыўся да пачатку вайны. Пасля нападу фашыстаў аказаўся ў нямецкім тыле, быў абстраляны, трапіў у Варшаву. З Варшавы быў накіраваны ў Румынію. Трапіў у палон. Уцёк з палону, перайшоў нямецка-савецкую мяжу і вярнуўся на радзіму. Працаваў рабочым у Нясвіжскай пякарні да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Вярнуўся на хутар у Кулік, працаваў на гаспадарцы. Досвед Адася Некраша у нямецкім новым парадку ў далейшым перадвызначыў лёс яго самога і ўсёй гэтай сям'і.

Прыход Чырвонай арміі сустрэлі, як непазбежнасць. У ноч з 16 на 17 ці з 17 на 18 верасня загрукала каля Салтанаўшчыны. Касцянеўцы гадалі, ці немец прыйшоў ці саветы. Раніцай бачылі як "уцякалі два польскія ўланы, а за імі гналіся два казакі. Аднаго ўлана забілі, адзін уцёк". Пад абед савецкія войскі ўвайшлі ў Сейлавічы. Шляхта не сустракала ніяк. Сяляне выйшлі сустракаць ужо ў сярэдзіне вёскі, але хлеба з соллю не паднеслі, то пасля савецкія чыноўнікі гэта Сейлавічам доўга згадвалі.

Мой бацька ў свае 12 гадоў паспеў і з хутара паглядзець на войска. То адзін чырвонаармеец убачыў у яго на шапцы польскага арла, паклікаў да сябе, арла зняў, а чырвоную зорку павесіў. Бацька задаволены вярнуўся на хутар. Савецкая ўлада прыйшла.

Яшчэ першыя саветы запомніліся тым, што не стала каму ганяць за пасадкі тытуню, дзеці год не хадзілі ў школу, а ў 1940-м усе пайшлі ізноў у тыя самыя класы, якія скончылі ў 1939-м, бо ніхто ні па-беларуску, ні па-руску чытаць і пісаць не ўмеў. У 1940 годзе школа ў Сейлавічах была беларуская.

З 17 верасня 1939 года Сейлавічы ў складзе БССР, з 4. 12. 1939 года у складзе Нясвіжскага павету, а з 15.01. 1940 года ў Нясвіжскім раёне Баранавіцкай вобласці. З 12. 10. 1940 года Сейлавічы -- цэнтр Сейлавіцкага сельсавета Нясвіжскага раёна, Менскай вобласці. Першым старшынём сельсавета быў **Галаўнёў**.

У Сейлавічах было арганізаванае Сейлавіцкае сельпо і была адчынена крама ў прыватным памяшканні.

У 1940 годзе ў Вінклераўскім лясніцтве была адчынена Сейлавіцкая бальніца. Там працавалі два дактары: зубны і тарапеўт.

Усе кунаскія асаднікі былі вывезены. Але трэба адзначыць, што нашчадкі некаторых з іх на гэты момант жывуць у Сейлавічах.

У траўні 1941 года ў Кунасе на землях асаднікаў быў утвораны калгас імя Андрэева *(Андрэеў -- бліжні сябар і паплечнік І. Сталіна)*. У калгас уступіла 24 гаспадаркі. Першым старшынём калгаса быў абраны Мікалай Адамавіч Пяцігор. У калгасе было два трактары: колэзы і тракавы.

Насуперак савецкім дагматам пра распальванне пры Польшчы міжнацыянальнага антаганізму савецкія рэпрэсіі 1939-1941 гадоў не закранулі Сейлавічаў, ды і карэннае насельніцтва Андрушоў і Кунасы таксама. Не зачапілі, нават, сейлавіцкага ксендза. З 300 сейлавіцкіх гаспадарак, дзе палова праваслаўных, а палова каталікаў ніхто ні на кога не данёс, ніхто нікога не ўдаў.

На сейлавіцкіх землях у гэтыя годы (2. 07. 1940 г.) быў асуджаны на 8 гадоў працоўна-папраўчых лагераў толькі **Базыльчык Іосіф Мацвеевіч**, прыезджы парабак, родам з Капыльскага раёна, які працаваў у багатага шляхціца ў Ліпніцкіх. Самога шляхціца ніхто не чапаў. Агульны лік рэпрасаваных па Нясвіжскаму раёну, аднак, ідзе на сотні.

На 22 чэрвеня 1941 года ні аднаго сейлаўца ў Чырвонай арміі не аказалася. З Кунасы ў войску аказаўся **Хвізюк Міхаіл Адамавіч**, які прапаў без вестак 20.08. 1941 г. Мабілізацыю савецкая ўлада правесці не паспела, таму практычна ўсе сейлаўцы, андрушоўцы, кунашанцы і ліпнічанцы засталіся дома.

Паколькі ніякія стратэгічныя, тактычныя і нават дапаможныя дарогі цераз Сейлавічы не праходзяць, то не гледзячы на тое, што гэта ўсяго 10 кіламетраў ад Нясвіжа, немецкая ўлада з'явілася ў вёсцы толькі недзе ў 1942 годзе. Гэтую ўладу ажыццяўляў руды кульгавы немец, з ржавай стрэльбай і гумай (гумовай палкай), які жыў у Ганусаўшчыне.

У канцы 1941 ці пачатку 1942 года ў Сейлавічах быў прызначаны солтыс (стараста). Ім стаў Юльян Навоша (Вайцюк) з Касцянева. Следам з'явілася невялікая паліцэйская залога.

А ў 1941 годзе на сейлавіцкіх хутарах хавалася шмат яўрэяў з Нясвіжа. Па некалькі сямей яны жылі па хутарах, аж пакуль немцы не пачалі ствараць гета і пад страхам смерці пачалі патрабаваць выдачы яўрэяў. І недзе ў 1942 годзе яўрэі з сейлавіцкіх хутароў пайшлі ў нясвіжскае гета. Каля 7 тысяч іх расстраляна ў розных месцах Нясвіжчыны. Недзе там аказаліся і сейлавіцкія яўрэі.

Устанаўленне нямецкага парадку было праведзена ў вельмі зразумелай форме. З устанаўлення гэтага парадку яшчэ пасля вайны некалькі дзесяцігоддзяў рагаталі ўсе Сейлавічы.

Ганусаўскі немец атрымаў загад нарыхтаваць у Сейлавічах нейкую колькасць лесу. Перадаў загад па вёсцы.. Сабраліся мужчыны і рушылі ў лес. Снег той зімой быў глыбокі, лес чужы, пілуюць не сабе. Таму пасталі і, як стаялі, так і пачалі пілаваць. Пні атрымоўваліся ў пояс. Немец паглядзеў, паглядзеў, узяў сваю гуму і нічога не кажучы як апяража крайняга цераз спіну. Другога біць не спатрэбілася. Снег імгненна быў разгрэбены і пілы зашасталі ажно мох чапляючы. Нямецкі Ordnunq быў устаноўлены адным ударам гумы.

Партызанскі рух і ўсе свае праблемы ў Сейлавічах немцы арганізавалі самі. Мабілізацыю ў Нясвіжскім раёне, як было сказана, савецкая ўлада правесці не паспела. Усе мужчыны і ўсе хлопцы былі дома. Сем'і былі вялікія па 3-4 хлопцы ў сям'і. Усе працавалі на гаспадарках. Павярталіся, нават, тыя, хто да вайны працаваў дзе-небудзь у горадзе.

У лясах былі невялікія партызанскія аддзелы з акружэнцаў і НКВД-эшнікаў. Але яны не карысталіся падтрымкай насельніцтва. І вось немцы пачалі набіраць моладзь для вывазу на працу ў Германію.

Сейлаўцы не жадалі ехаць у Германію. Асабліва не жадала ехаць шляхта. Між іншым, з заборам моладзі ў Германію не ўсё было адназначна. Ад Германіі можна было адкупіцца. У каго было золата, адкупляліся. Плямянніцу маёй бабулі з Пасякоў адкупілі. Можна было адпрасіцца. Мая бабуля была ўдавою. У яе было тры дачкі і самы меншы сын. Немцы паставілі цётку Юзю на работы. Бабуля дайшла ў Нясвіжы да нейкага важнага начальніка і цётку пакінулі дома.

Да слова, атрымоўваецца, што ні адзін сейлавіцкі шляхціц, ні адна шляхцянка з 150 сямей не былі на работах у Германіі. Праваслаўныя былі, і зараз чалавек некалькі атрымоўваюць маркі. З шляхты марак не атрымоўвае ніхто. Разам з тым, з іншых вёсак была на работах і шляхта.

Адным з арганізатараў партызанскага руху ў Сейлавічах быў Адась Некраш. У Некрашаў дома быў бацька і чатыры сыны. Двум – Адасю і Стасю, а таксама іншым шляхочым хлопцам немцы сказалі ехаць у Германію. Адась Некраш, мой дзядзька па мацеры, як ужо гаварылася, пакаштаваў нямецкага парадку. Ён выдатна ведаў, што чакае нашую моладзь у Германіі. Таму калі сейлавіцкіх хлопцаў завезлі ў Баранавічы і зачынілі ў вагоне, ноччу па камандзе Некраша хлопцы выламалі падлогу і ўсе ўцяклі. Вярнуўшыся ў Сейлавічы, яны на працягу некалькіх дзён правялі частковую мабілізацыю каталіцкай часткі Сейлавічаў і Адась вывеў іх у лес. Пайшлі трое Некрашаў: Адась, Янак і Стась. Пайшлі двое Гладоўскіх: Янак і Мецік. Тады ж або пазней пайшлі Стась Невядомскі, Вацік Хоміч, Чэсь Шыдлоўскі. Пазней паўцякалі з паліцыі і пайшлі ў партызаны праваслаўныя сейлаўцы: Косцік Белік, Юлік Чарнюк, Коля Навоша (Вайцюк), сын солтыса, Валодзік Кісун. Сейлаўцы далучыліся да партызанскага аддзелу Шастапалава. Сейлаўцы ваявалі ў аддзеле імя П. К. Панамарэнкі, затым аддзеле імя М. А. Шчорса 27-й брыгады імя В. І. Чапаева.

Адась Некраш з 1 снежня 1942 года па 4 чэрвеня 1944 года быў партызанам аддзела імя П. К. Панамарэнкі, затым аддзела імя М.А. Шчорса 27-й брыгады імя В. І. Чапаева на пасадах шарагоўца, старшыны, камандзіра польскай роты.

Рота лічылася польскай, але ваявала ў складзе савецкага партызанскага аддзелу. Гэта было адно з нямногіх падраздзяленняў чырвоных польскіх партызанаў. Магчыма дзякуючы гэтаму на Нясвіжчыне не было белых польскіх партызанаў.

Былы камісар партызанскага аддзелу імя Шчорса М. Я. Арышчук успамінаў, што гэта быў вельмі храбры і адважны воін. Партызаны яго паважалі. На баявым рахунку А. А. Некраша пяць пушчаных пад адхон эшалонаў, 10 узарваных аўтамашын. Ён удзельнічаў у многіх баях, у тым ліку ў аперацыях па разгрому пяці варожых залогаў. Ён добра ведаў мясцовасць, меў многа сяброў сярод насельніцтва, што дапамагала яму выконваць самыя адказныя заданні камандавання.

У 1943 годзе партызанамі былі пазгромлены паліцэйскія залогі ў вёсках Наруцавічы, Нялепава, Салтанаўшчына, Смалічы, а таксама шэраг участкаў і залогаў у Капыльскім і Уздзенскім раёнах. Звяз, якім камандаваў Адась Некраш вызначыўся ў час разгрому нямецкага залогі ў в. Сейлавічы.

У сілу таго, што сейлавіцкія католікі аказаліся ў партызанах, немцы мусілі набіраць паліцыю з праваслаўных. Адыгрывала тут ролю і тое, што паўсюль на Беларусі немцы перасталі давяраць палякам, замянялі іх беларусамі ў установах і на пасадах. Аднак ніяк нельга сказаць што сейлавіцкія беларусы кінуліся ў паліцыю. Большасць з іх была так жа мабілізавана. Многія рознымі спосабамі ўцякалі. Некаторыя служылі ў паліцыі да першай пастаноўкі на пост. Так з паста ўцёк Косцік Белік. Уцякаў Валодзік Кісун, быў паранены, застаўся без нагі.

Але вайна, ёсць вайна. Паліцэйскую залогу ў Сейлавічах знішчалі тры разы. Былі спалены былыя польскія вайсковыя будынкі. Пасля двух разгромаў умоцненая нямецка-паліцэйская залога размясцілася ў будынку школы. Школа была акружана глыбокімі акопамі, калючым дротам. З памяшкання школы было зроблена восем хадоў зносін з дзотамі, дзе стаялі кулямёты. Залога налічвала да 60 чалавек.

У трэці раз разгром залогі арганізоўваў Адась Некраш. Ён з'явіўся ў сястры начальніка паліцыі Мікалая Навошы (Латыша) і запрасіў брата на сустрэчу. Латыш прыйшоў на сустрэчу. Некраш і Латыш пра ўсё дамовіліся. Начальнік паліцыі, паводле аповеду партызанаў, прынёс у залогу гарэлкі і панапойваў паліцыянтаў, праверыў пасты і насыпаў пяску ў кулямёты. Магчыма гэта было і некалькі не так, але ноччу партызаны накрылі залогу. Каля паловы паліцыянтаў была перабіта. 32 чалавекі былі ўзятыя ў палон. Былі захоплены багатыя трафеі: тры спраўныя ручныя кулямёты, дваццаць вінтовак, дзве тысячы патронаў, сямнаццаць дыскаў да ручных кулямётаў. Школу, у якой размяшчалася залога, спалілі.

У партызанскі аддзел быў дастаўлены і Латыш разам з жонкай. Латыша партызаны, між іншым, хацелі расстраляць, але Адась Некраш стрымаў слова, пераправіў яго ў іншы партызанскі аддзел, дзе той даваяваў да канца вайны, а пасля вайны выехаў у Польшчу.

Пасля гэтай аперацыі ў партызаны прыйшлі сейлаўцы: Чэсь Цвірка, Генрык Тамашэўскі, Стась Сакалоўскі, Юзік Мірашэўскі і інш.

Немцы не маглі даравацъ. Назаўтра яны з'явіліся на хутар Некрашаў. Дома быў Адам Некраш – бацька Адася, Стася і Янка, якія ваявалі, і малая Аня Некраш 1932 года н., мая маці. Бабця і яшчэ адзін хлопец Казік пасвілі кароў.

Немцы спыталі у Ані, дзе маці. Дзіця адказала: "Пасе кароў". "Ну то ідзі клі!" Калі дзіця выйшла на ганак, следам выйшаў паліцыянт і ціха сказаў: "Ідзі, але глядзіце ж, назад не вяртайцеся". Аня дабегла да кароў і ўсе ўтраіх, кінуўшы кароў, кінуліся ў кусты.

Немцы забралі ўсё каштоўнае падпалілі хату і паехалі. Адам Некраш стаяў і глядзеў, як гарыць хата. Ад'ехаўшыся, немцы апомніліся. "Што ж мы будзем партызанскага бацьку жывым пакідаць?" Вярнуліся, завялі ў хлеў, палажылі на салому і застрэлілі. Так загінуў першы Некраш.

Вясной 1944 г. група партызан пад камандаваннем А. А. Некраша выйшла ў Вінклераўскі лес да дарогі, што вяла на Нясвіж. Але не паспелі яшчэ яны і замаскавацца, як былі выяўлены вялікай групай паліцэйскіх, якая ехала з Нясвіжа на падводах. У нязручных умовах быў прыняты няроўны бой, у якім загінуў адзін з партызан, а таксама былі цяжка паранены Часлаў Цвірка і Васіль Калінін. Праз некалькі дзён Калінін памёр ад ран.

Акупанты прымалі ўсе меры, каб не дапусціць партызан да галоўных залогаў і да чыгункі: высякалі лес, мінавалі падыходы, рабілі засады. На адну з такіх засад каля вёскі Качановічы і трапіла група падрыўнікоў. У баі загінуў брат Адася Некраша – Стась, а таксама паранены яго сябры – Казік Ратомскі і Зэнак Цвірка. Апошні быў схоплены гітлераўцамі і закатаваны.

*(Працяг у наст. нумары.)*

Карані

# Жыццё, аддадзенае зямлі і слову

Беларускі народ багаты на таленты. Гэтая аксіёма не патрабуе доказаў. Тысячы невядомых народных паэтаў, апавядальнікаў і мастакоў на працягу стагоддзяў ствaралі ашаламляльны па значнасці і філасофскім змесце нацыянальны беларускі фальклёр, які працягвае жыць і сёння ў народных песнях, паданнях, строях і вырабах народных умельцаў. Без укладу ў нацыянальную скарбонку іх талентаў не было б Быкава і Драздовіча, Караткевіча і Багатырова...

Ваеннае пакаленне беларусаў дало шмат прыкладаў таго, як талент народнага творцы спалучаўся з неверагодным жыццялюбствам і імкненнем бачыць прыгожае нават тады, калі родная зямля была ў разбурэннях і апаленай вайной. Успомнім прыклад народнай мастачкі Алены Кіш, якая нягледзячы на трагедыю ваенных гадоў, ствaрала свае маляванкі, што і сёння зачароўваюць сваім харастом і казачнай фантазіяй...

Адным з такіх народных талентаў-самавукаў, які спаўна зведаў жах фашысцкай акупацыі і застаўся чуйным да прыгожага паэтычнага слова, быў Сяргей Пятровіч Дробаў – просты вясковец, працаўнік, самадзейны паэт, беларус па закліку душы. Успамінае дачка С.П. Дробава Наталля.

*- Пра свайго бацьку Сяргея Пятровіча я памятаю толькі добрае: з нейкай незямной любоўю ён адносіўся да нас, дзяцей, якіх у нашай сям'і было трое. Разам мы бавілі ўвесь вольны час, хадзілі на рыбалку, па грыбы і ягады ў лес. А яшчэ мы любілі спяваць беларускія народныя песні. Шмат ведаў бацька вершаў Коласа, Купалы, рускіх паэтаў, любіў нам дэкламаваць іх творы. Памяць ён меў выключную!*

*Працаваў бацька трактарыстам, а потым кіроўцам. А калі пагоршылася здароўе, саўгас накіраваў яго на вучобу ў Калінкавічы. Па заканчэнні вучобы тата атрымаў дыплом ветэрынара.*

*Лёс бацькі быў нялёгкім. Яго бацька, а наш дзед – Пётр Прохаравіч Дробаў быў рэпрэсаваны. На той час ён лічыўся моцным гаспадаром, кулаком – меў касілку і малацілку. Так без кармільца засталіся шасцёра дзяцей Пятра Прохаравіча. А самі ведаеце, якія адносіны былі да сямей рэпрэсаваных у той час – гора нацярпеліся шмат!*



*У 1944 годзе ўся сям'я разам з маці трапілі ў канцэнтрацыйны лагер Азарычы, дзе пяцігадовы Сяргей спаўна зведаў жахі гітлераўскай няволі, голаду і здзекаў. Выратавала ад смерці хворага Сяржу маці, якая, абараняючы дзяцей ад лютага холаду, складвала вакол іх целы памерышых вязняў. Вызваленне прыйшло ў тым жа 1944 годзе разам з Чырвонай Арміяй.*

*А потым былі цяжкія пасляваенныя гады і непераадольнае жаданне вучыцца: зімой у школу бегаў нават без абутку, а потым босым вяртаўся дахаты. Але шмат чытаў, захапляўся Купалам і Коласам і ўвогуле любіў класічную паэзію.*

*А вось сам вершы пачаў пісаць бацька ў сталым узросце. Яго натхняла на творчасць някідкая прырода Беларусі, яе дарагія сэрцу краявіды. Не мог ён пазбавіцца і страшных успамінаў пра жахі фашысцкага канцлагера...*

Бацькі не стала ў 1990 годзе. Зрабіла сваю справу хвароба, на якую ён пакутаваў яшчэ з Азарычаў. Але засталася пра Сяргея Пятровіча добрая памяць людзей, дзяцей і ўнукаў, а яшчэ стос вершаў, якія склалі рукапісную кнігу вершаў С. П. Дробава. Гэтыя вершы прасякнуты роздумам пра асабісты лёс, пра пачуцці беларуса, зачараванага сваёй Бацькаўшчынай. І хоць шмат якім творам сельскага паэта не стае прафесіяналізму ў тэхніцы вершаскладання, у гэтых радках адчуваецца нешта такое, што абавязкова павінна прысутнічаць у сапраўднай паэзіі – спавядальнасць перад сабой і чытачом, шчырасць простых пачуццяў, глыбінная, ад прашчураў, любоў да роднай зямлі, дзе нарадзіўся і вырас. Простыя словы немудрагелістых вершаў Сяргея Пятровіча Дробава адкрываюць перад намі, чытачамі асобу беларуса-патрыёта, які душой і памкненнямі належыць сваёй Радзіме – Беларусі.

...Рэабілітацыя Сяргея Пятровіча Дробава адбылася ўжо пасля яго смерці. Але ці не запозненая яна для таго, хто шчыра працаваў на зямлі дзеля Бацькаўшчыны, хто марыў, каб квітнела родная беларуская мова?

**Анатоль Мяльгуй.**

Шчыра дзякую паэту Яўгена Гучка за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.
27.09.2001г.

**С. Дробаў.**
**Успамін жыцця**

Зімой у снежную завею
Нібы застылы я стаю
І ў гуках песні завіхурнай
Жыццё былое пазнаю.

Вось голас маці
над калыскай,
Пяшчотны поўны
цераз край,
А гэта стогн
удавы гаротнай –
І боль, і роспач, і адчай.

І не пазбавіцца напеваў
Ваенных жудасных часоў,
Дзе з папялішча маці кліча
Сваіх дачок, сваіх сыноў.

І раптам песня Перамогі
Выратавальна
льецца з вышы
І боль нясцерпны заглушае,
І патанае боль у цішы.

І ўжо няма вакол завеі,
І над усім спакой пануе...
Хай нашы дзеці, нашы ўнукі
Жахлівай музыкі не чуюць!

# “Яго вершы – гаючыя лекі”

***Адзіны суд мне – лёс Айчыны,***
***І ёй прысвечаны мой шлях,***
***Пражыць не пасынкам, а сынам***
***З цяплом і праўдай у вачах.***
***(Ігар Пракаповіч.)***

У маім сэрцы заўсёды вобраз Святой Ефрасінні Полацкай, збіраю напісанае пра нашу заступніцу, удзельнічала ў працы форуму і кангрэсу арганізаванага фондам Св. Ефрасінні Полацкай. Апошні раз была ў пілігрымцы ў 1999 годзе. Невыпадкова, менавіта, тады адкрыла для сябе цудоўны свет паэзіі Ігара Пракаповіча. Зборнік вершаў паэта “Шляхі наканаванага бязмежжа” стаў не проста настольнай кнігай, а гаючымі некалі, атрымоўваю не толькі асалоду, а і душэўны спакой, цяпло, шчырасць:

***Наша сустрэча – нібыта таемная дзея:***
***Кубачак кавы і лямпы настольнай святло.***
***Сцяг беларускі пад столлю анёлам бялее,***
***Печка вясковая нас атуляе святлом...***
***Ціхія словы. Адкрытасць у сэрцах і душах.***
***Мова, як пава, плыве ад кута да кута...***

Восень. Ціхі халодны вечар. Шуміць дождж. Чытаю радкі верша “Цяжарная дзічка” і павольна “прыходзіць цяпло”.

Ёсць вершы, якія запамінаюцца, ужываюцца ў сэрца:

***“Ціха ў храме пустэльным малюся.***
***Літасці ў Бога прашу Беларусі.***
***Ціха малюся...”***

Як сумленнаму грамадзяніну, патрыёту, І. Пракаповічу неабыякавы лёс Бацькаўшчыны; яе будучыня і гэта перадаецца чытачу. Верш “Душа мая, чаму ты спіш” адрасаваны ў першую чаргу тым, ад каго можна пачуць, што мова не галоўнае для чалавека. На жаль такое апошнім часам часта можна пачуць. Таму мне блізка такая грамадзянская пазіцыя аўтара:

***Душа мая, чаму ты спіш***
***У час, калі жыццё бунтуе,***
***Калі сусед ідзе на крыж –***
***Свой лёс Радзіме ахвяруе?...***
***Няўжо не чуеш ты праклён,***
***Людзей, за кратамі пажыўшых?...***

Курапаты, Чарнобыль, рэаліі сённяшняга жыцця паэта хвалююць:

***Ліпнуць да сэрцаў транты, анучы.***
***Грошы складаюцца куча да кучы.***
***Як беладонна, бацвее мана...***
***А там, за вуглом,***
***Ева гандлюе прыродным грахом.***

Смутак, трывога. Верш “На Радзіме маёй камяні, камяні”..., як бы спыняе імгненне. Падумайце! Спыніцеся!:

***... На Радзіме маёй – камяні, камяні...***
***Гэта - лёс. Гэта – шлях. Гэта – зорка,***
***Заімшэлі яны ды травой парaслі,***
***Як пабачу, дык робіцца горка...***

Нядаўна актывісты ТБК вярнуліся з вандроўкі ў Беларусь, нашу жанчыну амаль каля дому спынілі чалавекі, патрабавалі грошы. Пажылая кабета, апусціўшы вочы долу, каб бачылі, што на іх яна не глядзіць і не запомніць, прашаптала: “У мяне ж нічога няма, толькі вярнулася з паездкі. Вось, два залатыя пярсцёнкі і працягнула рукі. Бярыце, толькі не біце”. “Давай, хоць пярсцёнкі...”

На другі дзень ад суседкі вырвалі сумачку, а на твары “пакінулі сляды” на ўсё жыццё. Такія страшныя выпадкі. Грамадства падзялілася на дзве катэгорыі – багатыя і тыя, хто апынуўся “на дне”.

Адкрыла зборнік паэта, прачытала на любай старонцы вершы і палягчэла:

***...Нам сэрца Богам дадзена...***
***Жыццё нам Богам дадзена,***
***Каб мы каханнем мерылі***
***Штодзённа прыгажосць,***
***Бо тое ўсё нявечнае,***
***Што ў душы ўкрадзена,***
***І там, дзе няма шчырасці,***
***Заўжды пануе злосць...***

Або вось, радкі верша “Ля возера Доўжа -- гаючая ціша”:

***...Хай нехта не любіць прыгожыя словы,***
***А я ачышчаюся пахам вясновым,***
***А я ячу веру і людзям і травам...***

Шмат вершаў, прысвечаных вечнай тэме – каханню, без каторага не было б і Паэта. Яны незвычайныя, напоеныя водарам вясны, чыстыя як снег, ціхія. А як прыгожа і рамантычна “надае” чытачу аўтар навакольную прыроду, яе харaство, як трапна падабраны метафары і параўнанні:

***Ля возера Доўжа – гаючая ціша,***
***Мядовыя травы і водар духмяны.***
***Лянівая хваля люстэрка калыша,***
***З балотаў да возера льюцца туманы,***
***У гэтую казку ўвойдзе не кожны,***
***Вячэрнія песні пачуе не кожны...***

Ігар Пракаповіч – паэт ад Бога, Ясенін у беларускай паэзіі, з адкрытым сэрцам для ўспрыяцця, яго вершы дапамагаюць жыць і выжываць, акрыляюць. У іх няма непатрэбнага, прынамсі я не заўважаю. Яны гарманічныя, спалучэнне цютчаўскай і ясенінскай стыхіі. Па азначэнню П. А. Флярэнскага, зробленыя рэчы блішчаць, а народжаныя мігацяць. У паэзіі І. Пракаповіча ёсць гэтае жывое мігаценне. Кніга паэта “Шляхі наканаванага бязмежжа” знайшла свайго чытача, у ёй, па выразу К. Камейшы, “прахадных старонак шукаць не даводзіцца. Калі мне штосьці вельмі падабаецца, я перапоўненая стараюся падзяліцца з сваімі духоўнымі сяброўкамі, зрабіць падарунак. Так здарылася з паэзіяй І. Пракаповіча, зборніка вершаў у кнігарнях Менска няма. А самы любімы мой верш “Касцёл Святой Ганны”:

***Ёсць у Вільні касцёл***
***Яго вежы ірвуцца да неба,***
***Як каханне, якому прытулак – Сусвет,***
***Ён для тых, каму вера***
***І дні развітальныя трэба,***
***Ён для тых, каму клінам***
***Сышоўшыся рамонкавы свет...***

І, цяпер вандруючы з гасцямі па беларускіх мясцінах Вільні, я чытаю не толькі верш Максіма Багдановіча пра касцёл Святой Ганны, а і нашага сучасніка І. Пракаповіча. Гётэ казаў: “Хто хоча зразумець паэта, павінен ісці ў яго край”. Для мяне азёрная Віцебшчына асацыюецца не толькі з імёнамі Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна а і з паэтам Ігарам Пракаповічам:

***Па свеце колькі не блукай,***
***А ўсё адно – усе шляхі***
***Вядуць у ціхі родны край,***
***Дзе адпускаюцца грахі.***

Ён прадстаўляе свету пачынаючых паэтаў Пастаўшчыны на старонках газеты “Выспа літаратурная”, рэдактарам якой з'яўляецца, заснаваная Пастаўскай раённай арганізацыяй ТБМ імя Фр. Скарыны. Можна шмат гаварыць пра творчасць І. Пракаповіча, а ў маім сэрцы засталася малая радзіма паэта:

***Радзіма...***
***Дарога мая і прытулак,***
***Надзейнае сонца, што свеціць***
***і ўдзень, і ўначы,***
***Дзівосная сіла***
***У сховах лясоў і рачулак***
***Нібы магніт мяне вабіць,***
***Каб мучыць ізноў і лячыць.***

**Леакадзія Мілаш,**
**г. Вільня, жнівень.**

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 10. 2001 г.
Наклад 3750 асобнікаў. Замова № 2289.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
*Кошт у розніцу:* 80 руб.